

№ 34 (51)
Верасень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





## Уславілі Беларусь у Тураве

Фота Міколы КОТАВА

## Зноў – пра аўтарства «Слова аб паходзе Ігаравым»

***Як мастаку мне пашчасціла двойчы папрацаваць над вобразам Свяціцеля Кірылы Тураўскага. Першы раз гэта была постаць, выгравіраваная на латуні, для капліцы Ефрасінні Полацкай на беразе Дняпра-Славуціча – з благаславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, за што маю медаль «Да 2000-годдзя прыняцця хрысціянства на Русі». Другі раз я звярнуўся да таго ж вобраза ў парсуне на кужалі «павалоцы» (тэмпера, 180х64 см). У абодвух выпадках я прытрымліваўся канона «Жыція» Свяціцеля. Такі ж вобраз стварыў народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка.***

(Заканчэнне на стар. 7)

*Ініцыятыва*

## ДЗІЦЯЧЫ ПАРК імя М. Горкага ці парк Сымона-музыкі?

1 верасня 18-ы раз Дзяржаўны літаратурны музей Якуба Коласа праводзіў у дзіцячым парку імя Максіма Горкага вялікае свята для школьнікаў Мінска «Песняй вітаю я вас…» у рамках рэспубліканскага Дня ведаў. На свята сабраліся паэты, пісьменнікі, дзеячы культуры. Было шмат дзяцей. Гучалі вершы беларускіх паэтаў і, найперш, – самога Коласа. Дзеткі прысутным падаравалі канцэрт. Гучала мова Я. Коласа, наша мова.

Думка, якая нарадзілася ў час гэтага святочнага мерапрыемства, не павінна застацца са мною. Хацеў бы падзяліцца ёю з чытачамі і данесці яе да кіраўніцтва Мінска.

Мінскі дзіцячы парк за апошнія гады ператварыўся ў самае прыгожае месца адпачынку дзяцей горада. Былы губернатарскі сад, парк культуры і адпачынку імя М. Горкага стаў любімым месцам, дзе бавяць свой вольны час не толькі дзеці, але і іх бацькі, пенсіянеры.

А цяпер пра думку… Усім, хто ведае жыццёвы шлях і творчасць Якуба Коласа, вядома, што на тэрыторыі гэтага парку (бліжэй да вуліцы Фрунзе) стаяў дом, у якім жыў і працаваў перад Вялікай Айчыннай вайной наш вялікі пісьменнік. Дом у першыя дні вайны згарэў падчас бамбардзіровак нямецкай авіяцыяй і пасля ўжо не аднаўляўся, бо ўрад Беларусі прыняў рашэнне пабудаваць для сям'і Якуба Коласа новы дом паблізу Акадэміі навук. Зараз у ім месціцца музей пісьменніка.

Але ж само месца, дзе стаяў дом у парку, з'яўляецца мемарыяльным і павінна быць адзначана.

Я разумею, жыхары Мінска прызвычаіліся да назвы парка, які носіць імя «вялікага пралетарскага пісьменніка», заслужанага ў свеце чалавека, «буравесніка» кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расійскай імперыі. І пашану за гэта Максім Горкі атрымаў вялікую, у тым ліку і на Беларусі, хаця і наведаў яе толькі аднойчы, праездам (не спыняючыся) у Італію на адпачынак.

***Таму я ўношу прапанову для абмеркавання грамадскасцю, органамі культуры і Мінгарвыканкамам аб перайменаванні Мінскага дзіцячага парка імя М. Горкага ў дзіцячы парк Сымона-музыкі. Хачу адразу ж адказаць і на пытанне: «А што рабіць са скульптурнаю выяваю М. Горкага, якая знаходзіцца ў парку»? А нічога не трэба рабіць. Няхай Аляксей Максімавіч як сядзеў, так і сядзіць і спакойна пазірае на шчаслівых нашчадкаў Сымона-музыкі. Заадно, экскурсаводы, якія водзяць дзіцячыя экскурсіі па парку, будуць даваць інфармацыю як пра «вялікага пралетарскага пісьменніка», так і пра «вялікага беларускага Песняра».***

***З надзеяй на водгукі,***

***Уладзімір ГІЛЕП, старшыня Беларускага фонда культуры***

## «Зямлянам — чыстую планету»

Супрацоўнікі Дзятлаўскай раённай дзіцячай бібліятэкі, якой ужо доўгі час загадвае Таццяна Барысавец, імкнуцца выхоўваць у дзяцей любоў да роднай прыроды.

Бібліятэка не раз выходзіла пераможцам абласных і рэспубліканскіх конкурсаў на лепшую пастаноўку экалагічнага інфармавання мясцовага насельніцтва. Так, летась калектыў быў узнагароджаны Ганаровай граматай Гродзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. А па выніках рэспубліканскага конкурсу бібліятэка прэміравана каляровым тэлевізарам «Гарызонт».

Супрацоўнікі бібліятэкі Святлана Сербіна, Марына Лапушка і Жанна Пялецкая аформілі экалагічны куток «Прырода яшчэ спадзяецца». Тут ёсць раздзелы: «Зямлянам – чыстую планету», «Свет ратуецца прыгажосцю», «Трывогі нашы і надзеі». Падабрана літаратура па асновах агульнай экалогіі, пра нацыянальны парк «Белавежская пушча», пра таямніцы ляснога царства і шмат пра што іншае.

Свае гутаркі з чытачамі супрацоўнікі бібліятэкі (часцей за ўсё іх праводзіць Т. Барысавец) грунтуюць на канкрэтным мясцовым матэрыяле. А расказаць дзецям і іх бацькам ёсць пра што. Напрыклад, непадалёк ад Дзятлава знаходзіцца санаторый «Радон», якому нядаўна споўнілася дзесяць гадоў. Тут адпачываюць прадстаўнікі Італіі, ЗША, Германіі, Ізраіля, Люксембурга і іншых краін. Дэталёвыя даследаванні беларускіх і замежных спецыялістаў паказалі, што дзятлаўскія радонавыя крыніцы па сваіх лекавых якасцях не саступаюць іншым, даўно вядомым, а па асобных параметрах пераўзыходзяць іх. Таму вельмі важна, падкрэсліваюць бібліятэкары ў размовах, берагчы і захоўваць гэтыя унікальныя дары роднай прыроды.

У бліжэйшы час юныя эколагі сустрэнуцца з вядомымі навукоўцамі – біёлагамі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы і іншых ВНУ Гродна.

*Іосіф ЗАЯЦ*

**Шаноўныя сябры!**
**Падпісвайцеся на нашу газету на IV квартал**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны – 63320;
ведамасны – 633202

**Кошт на 1 месяц:**
індывідуальны – 3 320 рублёў;
ведамасны – 3 439 рублёў

Падпіска ў рэдакцыі – 2 520 рублёў на месяц





## Са Скокаў

Як устанавіў з дапамогай нашчадкаў польскага пісьменніка XVIII стагоддзя Юльяна Урсына Нямцэвіча брэсцкі краязнавец Анатоль Гладышчук, у палацы Нямцэвічаў у Скоках (цяпер Камянецкі раён) захоўваліся значныя мастацкія каштоўнасці: палатно «Маці Божая з Ісусам на руках» Барталамео, творы Ван Дэйка, Тэрнерса і інш. У архіве былі аўтографы многіх знакамітасцяў, у тым ліку ліст Джорджа Вашынгтона (1798). Усё гэта вывез у Германію прынц Леапольд Баварскі, які ў час Першай сусветнай вайны аблюбаваў палац пад жыллё. Ад'язджаючы, ён прыхапіў таксама каштоўную калекцыю табакерак – падарункі імператараў. Калі ўлічыць ваенна-акупацыйныя абставіны вывазу, каштоўнасці падлягаюць законам рэстытуцыі, і таму іх варта шукаць у прыватных зборах або музеях Германіі.

*Галіна ВІР*

## Увага: новае выданне!

***Тэма краязнаўства для Беларускага фонда культуры шмат гадоў таму стала праграмнаю тэмай. Можна нагадаць, што краязнаўства 80-х гадоў XX стагоддзя знайшло дах для аб'яднання менавіта ў БФК, пры дапамозе якога была створана грамадская арганізацыя «Беларускае краязнаўчае таварыства». І хоць яна праіснавала не шмат часу, але пакінула свой след, падштурхнула многіх краязнаўцаў да аб'яднання ў гурткі, да стварэння рэгіянальных, раённых і абласных краязнаўчых арганізацый. Пачалося стварэнне такіх гурткоў у школах, ВНУ, пры музеях і бібліятэках. Паўстала пытанне аб стварэнні друкаванага органа, які аб'яднаў бы намаганні многіх краязнаўчых арганізацый і асобных краязнаўцаў, накіраваныя на стварэнне агульнабеларускага грамадскага аб'яднання краязнаўцаў. Такая «Краязнаўчая газета» і была створана пры Беларускім фондзе культуры.***

Сёння рэдкалегія «КГ» прапануе чытачу вытрымку з асобнага выдання «Краязнаўства – крыніца ведаў і нацыянальнага сталення» доктара гістарычных навук, прафесара Л. М. Лыча. Намаганнямі рэдакцыі «КГ» гэтае выданне павінна выйсці з друку ў III квартале бягучага года.

Брашура Л. М. Лыча (каля трох друкаваных аркушаў) сваім зместам практычна абагульняе ўсё раней вядомае і малавядомае ў навуковым свеце, але раскіданае ў розных выданнях, часопісных і газетных публікацыях па краязнаўстве, яго крыніцах і каранях. **Брашура складаецца з трох раздзелаў:**

**1. Зараджэнне і развіццё краязнаўства на Беларусі са старажытнасці і ў перыяд Вялікага княства Літоўскага.**

**2. Краязнаўства Беларусі за Рэчы Паспалітай (1569–1795).**

**3. Краязнаўства Беларусі ў час знаходжання пад уладай Расійскай імперыі (1795–1917).**

Бясспрэчна, такое выданне дасць карысць тым, хто на сур'ёзным навуковым узроўні займаецца вывучэннем гісторыі і краязнаўства, пошукам навуковай і навукова-папулярнай літаратуры па ўсіх накірунках краязнаўства. Знаёмства з ёю акажа вялікую дапамогу практыкам краязнаўства: настаўнікам школ, музейным і архіўным работнікам, выкладчыкам ВНУ.

Першым выпускам мы пачынаем бібліятэчку «КГ» і маем намер працягваць працу ў гэтым накірунку.

**Усіх, каго зацікавіць будучае выданне, просім свае заяўкі накіроўваць у рэдакцыю «КГ» для папярэдняга вызначэння яго тыражу.**



*У Друцку. Гледзячы з гарадзішча...*

*Фота Міхася КЕНЬКІ*

# Зараджэнне і развіццё краязнаўства на Беларусі

Ёсць усе падставы сцвярджаць, што, як і ў іншых народаў, краязнаўства ў беларусаў бярэ свой пачатак з самай глыбокай старажытнасці і было паклікана да жыцця перш за ўсё практычнай неабходнасцю. Бо калі б нашыя далёкія прашчуры старанна не вывучалі, разумна не выкарыстоўвалі акаляючае іх асяроддзе, яны не выжылі б у тых надзвычай цяжкіх умовах. Перад тым як распачаць будаваць жытло, трэба было ведаць пра ўсе найбольш характэрныя своеасаблівасці выбранай для дадзенай мэты мясцовасці: якія тут вада і зямля, адкуль дзьмуць халодныя вятры, што з дзічыны водзіцца ў прылеглых лясах, а з рыбы – у рэках і азёрах. Калі мясцовасць дазваляла арганізаваць нармальнае жыццё, людзі сяліліся і ставіліся з вельмі глыбокай павагай да яе, што крайне рэдка давадзіцца назіраць у нашы дні.

Сапраўдны пераварот у вывучэнні роднага краю быў звязаны з узнікненнем пісьменства. З'явілася рэальная магчымасць усе яго адметнасці ўвасобіць у пісьмовай форме і дзякуючы гэтаму перадаць наступным пакаленням, вызваляючы іх ад неабходнасці вывучаць і апрабоўваць на практыцы тое, што ўжо рабілася папярэднікамі. Без пісьмовых крыніц нашы веды пра мінулае роднага краю былі б беднымі. Шкада толькі, што такіх крыніц язычніцкіх часоў нямала знішчыла хрысціянства.

Значна пазней і на нашай зямлі з'явіўся вельмі каштоўны першы агульнадзяржаўны летапісны звод – «Беларуска-літоўскі летапіс 1446 года». Пры яго складанні было выкарыстана шмат раней вядомых пісьмовых крыніц, асабліва пры асвятленні падзей найбольш далёкіх часоў. Сярод такіх крыніц сустракаюцца і мясцовыя творы: «Смаленская хроніка» (30-я гады XV ст.), «Пахвала Вітаўту» (першая і другая часткі складаліся ў 20–30-я гады XV ст.), смаленскія пагадовыя запісы, «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Пералічаныя пісьмовыя творы з'явіліся ў час, калі на нашай зямлі існавала адна з досыць магутных у Еўропе дзяржаў – Вялікае княства Літоўскае. Прычым у яго стварэнні магутную ролю адыгрывалі нашыя продкі. Іх роднай мова, якую прынята называць старабеларускай, стала адзінай дзяржаўнай у ВКЛ.

Сама дзяржава была зацікаўлена, каб у літаратурных творах фіксаваліся ўсе найбольш адметныя падзеі з ваенна-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця, і асабліва тыя, што маглі ўславіць краіну і яе палітыкаў. З гадамі такой літаратуры станавілася ўсё больш і больш. У яе змесце мелася шмат такога, што ўяўляла сабой краязнаўчую каштоўнасць. Толькі вось бяда: у выніку частых разбуральных войнаў разам з іншымі каштоўнымі рэчамі бясследна гінулі і рукапісныя творы, пры захаванні якіх мы сёння мелі б куды больш праўдзівую і поўную гісторыю роднага краю. На свой шляху чужацкія войскі з такім жа імпэтам разбуралі хрысціянскія храмы, бібліятэкі, як і абарончыя збудаванні, калі яны перакаджалі пранікненню ўнутр ВКЛ. Але здаралася і такое, што культавыя і культурныя ўстановы разбураліся, а іх каштоўнасці, у т.л. і кнігі, захопнікі вывозілі ў свае краіны. Адсюль зразумела, якую велізарную цану мае любы тагачасны літаратурны твор, які доўгі час захоўваўся і сёння захоўваецца ў бібліятэцы альбо архіве.

У якасці прыкладу можна спаслацца на «Хроніку Быхаўца» («Летапіс Быхаўца», «Быхаўца хроніка»), рукапіс якой згублены ў другой палове XIX ст. Як лічыць сучасны выдатны знаўца літоўска-беларускіх летапісаў Вячаслаў Чамярыцкі, «Хроніка Быхаўца» як летапісны звод завершана ў 30-я гады XVI ст. Яе арыгінальная частка ўключае «розныя гістарычныя і сямейныя паданні, успаміны відавочцаў, уласныя назіранні аўтара»[1], што дазваляе гаварыць і пра іх блізкасць да краязнаўчага матэрыялу. Падзеі ў ёй выкладзены ад самых старажытных часоў у гісторыі беларускай зямлі да пачатку XVI ст., калі найбольшага росквіту ў сваім развіцці дасягнула Вялікае княства Літоўскае. На яго афіцыйнай старабеларускай мове напісана і «Хроніка Быхаўца».

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (у далейшым – ЭГБ). Т. 6. Кн. II. Мн., 2003. С. 82.

*(Заканчэнне на стар. 4)*

## Пад Віхранамі закруціць Сож турбіны ГЭС

Пра гэта паведаміў старшыня Мсціслаўскага райвыканкама Уладзімір Капейка. Ужо на наступны год там распачнуцца работы па стварэнні гідраэлектрастанцыі.

Рашэнне прынялі дзяржаўныя энергетычныя службы Беларусі, якія і будуць фінансаваць будаўніцтва. ГЭС аснасціцца чатырма турбінамі, здольнымі даць танную электраэнергію суб'ектам гаспадарання не толькі Мсціслаўшчыны, але і суседніх раёнаў.



## «Бе-La-Русь»

Дуб не выпадкова быў выбраны сімвалам XIII Міжнароднага маладзёжнага лагера «Бе-La-Русь». Дрэва, вядомае сваёй магутнасцю, стала своеасаблівым праўобразам дружбы паміж маладымі людзьмі з трох славянскіх дзяржаў – Беларусі, Латвіі і Расіі.

Дарэчы, менавіта ў назве нашай рэспублікі так цікава перапляліся назвы астатніх дзяржаў і падарылі назву «Бе-La-Русь» гэтай акцыі (Бе – Беларусь, La – Латвія і Русь – Расія).

Па словах беларускіх арганізатараў, месца, выбранае для размяшчэння лагера, таксама стала сімвалічным – Курган Дружбы (Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці) у 1959 годзе быў узведзены ўдзельнікамі партызанскага руху. А дуб, пра які гаварылася вышэй, быў пасаджаны на вяршыні Кургана ў памяць аб узаемавыручцы трох народаў.

Як жа праходзілі будні паселенцаў маладзёжнага лагера?

Дэвізам мерапрыемства сталі тры дзеясловы – «сябраваць, мець зносіны, спабарнічаць». Удзельнікі разам вырашалі, што яны хацелі б у далейшым зрабіць у рамках маладзёжнага супрацоўніцтва, успаміналі пра подзвігі сваіх продкаў у час Другой сусветнай вайны.

Адраджэнню духу ранейшых дзён садзейнічала таксама праўядзенне ў рамках лагера праграмы «Сувязь часоў». Перад удзельнікамі злёту выступіла аб'яднанне «Рыцары Вялікага княства», якому ўдалося на некаторы час аднавіць атмасферу мінулай эпохі Вялікага княства Літоўскага. Па тэрыторыі лагера прагульваліся пераапранутыя ў касцюмы таго часу людзі, любы жадаючы мог паспрабаваць свае сілы, прыняўшы ўдзел у рыцарскім турніры.

Трэба адзначыць, што праўядзенне злётаў з удзелам моладзі з розных краін становіцца добрай традыцыяй. Напрыклад, толькі закончыўся лагер «Бе-La-Русь», як пачалася акцыя «Зялёная хваля», якая аб'яднала больш за 600 маладых людзей з Беларусі, Германіі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Эстоніі. Нягледзячы на тое, што мерапрыемства было арганізавана Германскім саюзам скаўтаў «Санкт-Георг», праходзіла яно на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Мэтай «Хвалі» стала збліжэнне моладзі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама знаёмства юнакоў і дзяўчат з культурай краін-удзельніц.

Такія акцыі ахопліваюць далёка не ўсё, што праходзіць у сферы маладзёжных кантактаў. Але зразумела адно: маладыя людзі імкнуцца да сяброўства, нягледзячы на пагранічныя і моўныя бар'еры.

*Вольга КОРБАН*








***Калі ў Беларускім нацыянальным санктуарыі Маці Божай у вёсцы Тракелі Воранаўскага раёна (Гродзенская вобласць) адзначаюць гадавіну аб'яўлення Марыі, у невялікую вёсачку з'язджаецца вельмі шмат людзей. Сёлета было больш за пяць тысяч, у тым ліку каля шасцідзесяці каталіцкіх святароў з розных куткоў Беларусі, а таксама з Расіі і Польшчы.***

Паломніцтвы ў святыя месцы здаўна лічыліся адным з найбольш пэўных спосабаў даказаць і ўмацаваць веру. Усім нам добра вядома Ефрасіння Полацкая, якая на схіле жыццёвага шляху пехатой пайшла ў Іерусалім, каб пакланіцца мошчам Хрыста і памерці. Пілігрымкі такіх маштабаў цяпер наўрад ці адбываюцца, аднак прайсці кіламетраў 100–150 да святых месцаў – не праблема нават для сучасных вернікаў.

Так, напрыклад, за дзень да ўрачыстасці ў Тракелях падобнае свята адбылося ў Будславе, што на Міншчыне. Адна са шматлікіх груп паломнікаў выйшла 18 чэрвеня з Брэста і за чатырнаццаць дзён прайшла больш за чатырыста кіламетраў. У Будслаў брэсцкая пілігрымка прыйшла ў колькасці, якая ў тры разы перавышала першапачатковую: у Баранавічах і іншых гарадах і вёсках, праз якія праходзілі паломнікі, да іх далучаліся новыя людзі. Пілігрымы былі на месцы, дзе, паводле падання, у 1588 годзе было аб'яўленне Маці Божай, а вяртаючыся дадому, заехалі ў Тракелі.

Ужо больш за пяць гадоў жыхары – католікі з Ашмян, Астраўца і Смаргоні здзяйсняюць такія пешыя вандроўкі. Гэты год не быў выключэннем. Больш за сто восемдзесят чалавек з гэтых гарадоў – у большасці моладзь – адважылася на гэтае шматкіламетровае паломніцтва. Аўтар гэтых радкоў удзень ішоў разам з усімі, а ўвечары, калі астатнія ўжо бачылі сны аб пройдзеных кіламетрах беларускіх дарог, браў у рукі ручку і блакнот і пісаў...

### Аўторак, дзень першы
### «Да Ісуса праз Марыю»

Такім быў дэвіз паломнікаў, якія зранку сабраліся каля ашмянскага касцёла. Перад тым, як рушыць у дарогу, усе атрымалі па чырвонай стужцы, якую кожны завязаў у выглядзе гальштука на шыю, па бэйджыку з імем уладальніка і значку з выявамі Ісуса і Марыі.

Першыя кіламетры былі пройдзены амаль неўпрыкмет – і ў хуткім часе мы апынуліся ў Барунах, дзе адзначалі Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла. Пасля святочнай месы і абеда мы зноў рушылі ў дарогу. Дарэчы, гэта былі першыя кіламетры, якія падаліся паломнікам сапраўды пакутлівымі і нясцерпнымі – нязвычныя да такіх доўгіх прагулак ступні адразу нагадалі аб сваім існаванні дзесяткамі мазалёў. Былі сярод нас аптымісты, якія жартавалі, што, маўляў, ніколі яшчэ не бачылі такой вялікай колькасці людзей у адным месцы, якія б думалі аб адным і тым жа – аб... мазалях.

Аднак усё калі-небудзь заканчваецца. Нас чакалі вячэрняя малітва і размеркаванне па гасцінных сем'ях жыхароў Гальшанаў. Тое, як пілігрымы разыходзіліся па хатах, нагадала мне казку пра Русалачку, якая так кахала прынца, што згадзілася ў абмен на чалавечыя ногі трываць страшэнны боль падчас кожнага кроку; яны не проста ішлі па дарозе, іх рухі былі падобныя да скокаў, бо кожны імкнуўся ступаць як мякчэй.

### Серада, дзень другі
### З песняй заўсёды лягчэй!

Раніцай усе паснедалі і сабраліся ў касцеле на ранішнюю месу. На тварах паломнікаў не было нават і намёку на ўчарашнюю стому і песімізм. Толькі мазалі час ад часу прымушалі ўзгадаць пакуты папярэдняга дня. Паслухалі даволі займальную пропаведзь айца Багуслава, які сцвярджаў, што «ўсё наша жыццё – паломніцтва з пунктам прызначэння пад назвай «смерць», і выйшлі ў дарогу. У гэты дзень мы павінны былі прайсці трыццаць кіламетраў і заначаваць у Юрацішках. Мабільныя тэлефоны ўсе схавалі далей у заплечнікі: адзінае, чаго можна было ад іх дабіцца, – сухая фраза «Пошук сувязі». Аднак сумаваць не было часу, бо, акрамя гутарак з новымі знаёмымі ды рэлігійна-філасофскіх канферэнцый, якія праводзілі святары, мы спявалі і танцавалі. Так-так, калі ў першы дзень пілігрымкі ўсе адчувалі



пэўную скаванасць у прысутнасці саліста гурта «Ave» клерыка Андрэя Скіпара, які прафесійна спяваў і граў на гітары, то назаўтра пачаліся не толькі харавыя выкананні хітоў гурта, але і танцы пад іх падчас руху.

### Чацвер, дзень трэці,
### звычайны

Адзінае, чым ён адрозніваўся ад папярэдніх, – тым, што прайсці засталося апошнія трыццаць кіламетраў (на астатні дзень нашага паломніцтва пакінулі ўсяго 13 км). У Іўі нас чакаў яшчэ гарачы абед. А ўвечары нарэшце прыйшлі ў вёску Ліпнішкі, якая стала месцам старта нашага «апошняга забегу» ў 13 тысяч метраў.

### Пятніца, дзень чацвёрты,
### самы радасны і самы дажджлівы

Раніцай у пятніцу мы нарэшце зрабілі тое, што не маглі сабе дазволіць у папярэднія – выспаліся, бо Святая Меса пачалася пазней, а дзесятай гадзіне.

Надвор'е вонкі, на жаль, зусім не адпавядала надвор'ю, якое панавала ў нашых душах: як толькі за намі зачыніліся дзверы, пачаў імжэць агідны халодны дождж, і мы вымушаны былі апрануць дажджавікі. Так атрымлася, што трэцюю частку нашага пятнічнага шляху з неба несупынна цякла вада, таму наш узняты настрой бессаромна і бясследна знік. Але раптам – гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, – дождж спыніўся, і паломнікі зноў кінуліся ў скокі!

Аднак неўзабаве ўсеагульную весялосць перапыніў айцец Багуслаў, які строга прамовіў, што прыйшоў час Крыжовага Шляху. Загадзя з маладых дрэўцаў быў змайстраваны крыж, які па чарзе неслі прадстаўнікі кожнай парафіі. А калі ўсё скончылася, той жа айцец Багуслаў абвясціў, што перад тым, як увайсці ў Тракелі, усе павіннны папрасіць адзін у другога прабачэння. І тут пачалося самае цікавае: пілігрымы сталі абдымацца, цалавацца, прасіць прабачэння, гаварыць, як былі рады пазнаёміцца... Пра дрэнны настрой ніхто нават і не ўспомніў.

Нарэшце мы апынуліся ў такім, як нам здавалася тры дні таму, далёкім месцы. Як радасна паломнікі сустрэлі шыльду з такім мілым надпісам «Тракелі»! Наша група была першай, хто прыйшоў (а не прыехаў) сюды, пасля нас сустракалі пілігрымкі з Гродна, Ліды, Смаргоні, Воранава і некаторых вёсак.

Пасля вячэры класціся спаць ніхто нават і не думаў: наперадзе была начная меса і працэсія са свечкамі, а ўранку ўсе сабраліся на ўрачыстую месу пад кіраўніцтвам ксяндза архібіскупа кардынала Казіміра Свёнтака. Потым пачалі развітвацца (балазе, новых знаёмых было цяжка палічыць) і разыходзіцца па аўтобусах, каб за гадзіну-дзве праехаць адлегласць, якую перааадольвалі чатыры дні.

### Эпілог

Такія мерапрыемствы можна характарызаваць выключна са станоўчага боку, таму што нават боль у нагах і шматлікія мазалі на ступнях пайшлі нам на карысць – прайсці некалькі кіламетраў цяпер для нас не праблема. А пра духоўную карысць і казаць не варта – яна відавочная і бясспрэчная. Безумоўна, за некалькі дзён паломніцтва кожны з нас стаў хоць крышачку лепшым.

А што тычыцца асабіста мяне, то я вырашыў: калі не здарыцца нічога непрадбачанага, то абавязкова пайду ў пілігрымку ў наступным годзе. Таму – да сустрэчы, Тракелі!

***Андрэй ЗАВАДСКІ***
***Ашмяны – Тракелі***

# Палац у Міжрэччы

***Цяпер ваколіцы Міжрэчча знаёмыя жыхарам Мёршчыны найперш дзякуючы штучнаму вадаспаду, які быў створаны плацінай фабрыкі і млына Козел-Паклеўскага ў пачатку XX стагоддзя. І толькі нямногія старажыхары ведаюць, што непадалёк, на месцы цяперашніх зараснікаў і друзу бітай цэглы, знаходзіўся арыгінальны помнік сядзібнай архітэктуры XVII стагоддзя. Аб яго каштоўнасці сведчыць той факт, што ў міжваеннай Польшчы ён быў узяты на ўлік як помнік дзяржаўнага значэння. Але ў пасляваенны час дбалі не аб мастацкіх каштоўнасцях... Яго прычакаў лёс знікнуць, і ён знік, як і многія іншыя цікавыя старажытнасці нашага краю.***

Мне не давялося ўбачыць яго наяве. Але ўпершыню пабачыў на карціне вядомага мастака ў хаце старога настаўніка Антона Феліксавіча Пупіна. Ён і распавёў крыху аб гэтым збудаванні. Ужо тады мяне зацікавіла адметнасць гэтай сядзібы. Пошук у архівах, знаёмства з працай польскага даследчыка архітэктуры Рамана Афтаназі дазволіла мне яскрава ўявіць, які выдатны помнік назаўсёды страціла наша зямля...

Паселішча Міжрэчча ўпершыню ў дакументах узгадваецца яшчэ ў XVI стагоддзі. Праўда, называлася яно Дуброўка, належала славутаму роду Сапегаў. Менавіта ад іх набыў яго ў XVII стагоддзі Багдан Валасоўскі. З гэтага часу Дуброўка называецца Міжрэччам. Другі набыты фальварак ён назваў у гонар сябе – Багданаў. Ягоныя ўладанні наследаваў сын Ігнат, жанаты на Брыгідзе Мірскай. Паколькі ў іх не было дзяцей, то маёнткі пераходзяць да сястры І. Валасоўскага – Канстанцыі, якая была замужам за Томашам Мірскім, і другой сястры Казіміры, жонцы Аляксандра Лапацінскага. Такім чынам, Багданаў перайшоў да Лапацінскіх, а Чэмяры і Міжрэчча дасталіся Мірскім. У 1852 годзе Міжрэчча атрымаў у спадчыну Віктар Мірскі. Пасля яго смерці ў 1892 годзе Міжрэчча дасталося пяці ягоным дачкам. Адна з іх, Ядвіга Аскерка, выйшла замуж за Вацлава Аскерку і сплаціла сваім сёстрам кошт маёнтка ды стала паўнаўладнай уласніцай Міжрэчча. Пасля смерці мужа ў 1905 годзе Ядвіга стала апошняй уладальніцай Міжрэчча. Яна памерла пасля высылкі ў 1940 годзе ў Сібіры.

Яе сын, Альгерд Аскерка, быў членам Браслаўскага павятовага камітэта, быў добрым гаспадаром (асабліва любіў гадаваць коней), заўсёды, па ўспамінах Браслаўскага старасты Янушкевіча, клапаціўся аб развіцці конегадоўлі ў павеце.

Старадаўняя сядзіба была пабудавана са старога дубу. Месцілася на маляўнічым схіле, вакол якога бліскучай стужкай бруілася рака Вята. Будынак палаца будаваўся на працягу амаль двух з паловай стагоддзяў. Першы яго паверх быў пабудаваны яшчэ ў XVII ст., другі паверх і іншыя пабудовы завершаныя ў канцы XIX ст. Ніжні паверх – мураваны і атынкаваны. Уваход быў з боку ракі. Перад уваходам на значнай адлегласці адна ад другой стаялі дзве вычасаныя з каменя калоны; раней, напэўна, на іх трымаўся дах, а пасля дабудовы другога паверха ў XVIII ст. сталі выконваць ролю падтрымкі рызаліту паверха. Другі паверх быў пабудаваны з дубовых бярвенняў. Тады ж галоўны ўваход перанеслі на процілеглы бок. На рызаліце другога паверха была галерэя з маленькіх калонаў, накрытых дошкамі. З боку ракі месціалася лоджыя.

Дах быў высокі, крыты гонтам. Пасля пабудовы другога паверха ў ніжнім размясцілася кухня, пякарня, склеп, гаспадарчыя памяшканні. Праз абодва паверхі праходзілі два вялікія коміны. На другім паверсе знаходзіліся сталовая 8x5 метраў, салон 7x5. Па абодва бакі калідора месцілася па тры пакоі. Вітальня і яе сцены былі зроблены пад натуральнае дрэва. Вокны былі як бы з двух частак, ніжняя – простакутняя, верхнія паўкруглыя (нагадвалі вітраж).

У даўнія часы пакоі былі абабітыя тканінай, у міжваенны час – ужо паклееныя шпалерамі. Цікавыя былі і вялікія грубкі з бронзавай, белай, жоўтай кафлі XVIII–XIX стст., упрыгожаныя арнаментам. Паркетная падлога выкладзена рознымі ўзорамі. Як піша Афтаназі, жалезныя клямкі ў дзвярах пакояў былі цудоўнай кавальскай работы, больш нідзе такіх немагчыма было сустрэць.

Адзін з пакояў насіў назву масонскага, таму што Тамаш Мірскі (адзін з уладальнікаў сядзібы) быў членам Віленскай масонскай ложы, масонам быў і яго сябра Канстанцін Валасоўскі. Сам Тамаш Мірскі быў генералам, адным з кіраўнікоў Віленскага ўрада падчас паўстання Т. Касцюшкі. У пакоях стаяла шмат старадаўняй мэблі; некаторая была выраблена мясцовымі майстрамі. Шмат прадметаў было прывезена з Італіі. Захаваўся дакумент пачатку XIX ст., у якім было пацвярджэнне аб выплаце 100 дукатаў за набыццё карцін еўрапейскіх мастакоў. Частка каштоўных рэчаў была падзелена яшчэ ў канцы XIX ст., частка – падчас рэвалюцыі вывезена ў Лявонпаль, у палац Лапацінскіх, дзе загінула пры пажары. Рэшткі зніклі падчас апошняй вайны. Асабліва шкада багатага архіва, дзе былі нават каралеўскія граматы і прывілеі ўладальнікам Міжрэчча. Лісты XVII–XVIII стст., газеты часоў паўстання Касцюшкі. Усё гэта прапала ў вайну і пасля яе.

Паблізу, направа ад дома, знаходзілася яшчэ адна цікавая пабудова – лямус, напэўна, таксама XVII ст. Як і дом, складаўся з двух паверхаў. У ніжнім (мураваным) былі лядоўня і склеп, а ў верхнім (драўляным) склад для сушкі сыроў. Гэты будынак таксама быў крыты гонтам, меліся сляды галерэі, якая акружала лямус на вышыні паўпаверха.

Перад домам знаходзіліся вялікія газоны. Дарога ад ракі была абсаджана дэкаратыўнымі кустамі. Да самой сядзібы вялі кіламетровыя прысады з надвіслінскімі таполямі. Пірамідальныя таполі і старыя каштаны стваралі прыгожы выгляд пры ўездзе на сядзібу. Налева ад дома цягнуўся сад, абсаджаны кустамі бэзу. Дарога паміж домам і садам вяла да ракі, на правым баку знаходзіўся сад для прагулак са шматлікімі сцежкамі, прысадамі дэкаратыўных кустоў, серабрыстымі і бальзамічнымі таполямі, чаромхай. Адсюль вяла маляўнічая сцежка ў даліну векавых дубоў і ліпаў.

***Вітольд ЕРМАЛЁНАК,***
***краязнаўца, г. Мёры***

**Ад рэдакцыі.** *Нядаўна вядомаму краязнаўцу, настаўніку і стваральніку краязнаўча-археалагічнага гуртка «Арганаўты мінулага» споўнілася 50 гадоў. Віншуем нашага аўтара і зычым яму новых поспехаў на ніве спасціжэння роднай Мёршчыны.*





# Зараджэнне і развіццё краязнаўства на Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2)*

Улады ВКЛ умелі высока цаніць і паважліва ставіцца да рознага віду дзяржаўнай, службовай дакументацыі, якая і тады была ў вялікай колькасці. Захаваная ад таго часу дакументацыя службовага характару як нішто іншае дае нам магчымасць атрымаць дакладныя і глыбокія веды па самых розных пытаннях гісторыі ВКЛ. Адным з самых першых і найбольш важных з прынятых ім юрыдычных дакументаў, несумненна, з'яўляецца Літоўскі Статут 1529 года. З яго зместу можна выкарыстаць нямала матэрыялу для краязнаўчых мэтаў. З улікам пазней унесеных у Статут дапаўненняў у ім мелася 283 артыкулы, у якіх даволі поўна адлюстраваны нормы дзяржаўнага права, шлюбна-сямейнае, апякунскае і спадчыннае, судова-працэсуальнае, крымінальнае, зямельнае, лясное і паляўнічае і іншыя правы. «Абвяшчалася права, паводле якога ўсе асобы, «як убогія, так і багатыя», павінны былі судзіцца паводле норм, выкладзеных у Статуце. Вялікі князь абавязваўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць чужынцаў на дзяржаўныя пасады ВКЛ, не даваць ім маёнткаў, не адбіраць у мясцовых феадалаў пасады і маёмасці без суда, прытрымлівацца ўсіх старых законаў і звычаяў...

Вельмі важна, што службовую дакументацыю з часоў вялікага князя літоўскага Альгерда (1345–1377) сталі складаць пераважна на старабеларускай мове, што паспрыяла росту яе прэстыжнасці сярод усяго насельніцтва ВКЛ, у тым ліку і не беларускага. Не на якой іншай, як толькі на старабеларускай быў напісаны і Літоўскі Статут 1529 года. Вывучэннем лексікі, асаблівасцей мовы гэтага юрыдычнага акта займаліся і працягваюць займацца многія вучоныя-філолагі. У 1530 годзе Статут перакладзены на лацінскую, у 1532 – на польскую мовы.

Спецыялістамі ўстаноўлена, што на старабеларускай мове напісана звыш 550 кніг дзяржаўных актаў ВКЛ. Звычайна ўсе такія кнігі мелі даволі вялікі фармат, што дазваляе гаварыць пра багацце і разнастайнасць выкладзеных у іх матэрыялаў.

Магчымасці папулярызаваць краязнаўчы матэрыял значна павялічыліся пасля таго, як чалавецтва навучылася друкаваць кнігі. Дзякуючы Францыску Скарыну беларусы авалодалі гэтым майстэрствам аднымі з першых сярод славянскіх народаў. Авалодваць жа ім даводзілася ў гасціннай чэшскай Празе. Тут Ф. Скарына 6 жніўня 1517 года надрукаваў на царкоўнаславянскай мове беларускай рэдакцыі першую сваю кнігу «Песни царя Давыда, еже словуть Псалтыр». У аснову яе, як і ўсіх 22 астатніх, пакладзены рэлігійны сюжэт, далёкі ад усяго таго, што датычыла жыцця на Беларусі. Куды бліжэй да яго былі паасобныя скарынаўскія прадмовы і пасляслоўі да выдадзеных у Празе кніг.

А вось у свецкага характару паэме другога нашага асветніка эпохі Адраджэння Міколы Гусоўскага «Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго» Беларусь паказана ва ўсёй сваёй велічы, прычым нават і ў краязнаўчым плане. Пісалася паэма на лацінскай мове і не дома, а ў Рыме. Выдадзена таксама не на радзіме, а ў Кракаве ў 1523 годзе. Можа, туга па айчыне і паспрыяла з зайздросным майстэрствам апісаць прыгажосць, непаўторнасць беларускай прыроды, паляванне на зубра, які паказаны аўтарам як сімвал Бацькаўшчыны. Чытаючы паэму, мы не можам не ўразіцца багаццем флоры і фауны роднага краю і таму да болю перажываем, што нічога падобнага нельга сустрэць у ім сёння. Цывілізаванае, пабудаванае на вялікіх дасягненнях навукова-тэхнічнага прагрэсу сучаснае грамадства аказалася не ў стане захаваць у прыродзе тое, што надавала ёй незвычайную прыгажосць, вялікую здольнасць аздараўленча ўплываць на чалавека. Нямала ў паэме і старонак з вельмі карыснымі, патрэбнымі для краязнаўства матэрыяламі па культуры, вераваннях, штодзённых занятках людзей. Недаравальна, што гэтую цудоўную ліра-эпічную паэму пераклалі на беларускую мову толькі ў канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Дзесяткі пакаленняў беларусаў не мелі магчымасці прачытаць яе на сваёй роднай мове.

***Леанід ЛЫЧ***




## 1129

# Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю

***Пасля смерці вялікага князя Усяслава Чарадзея Полацкая зямля падзялілася на ўдзелы, дзе кіравалі ягоныя сыны і ўнукі.***

Наймацнейшай асобаю ў тым пакаленні полацкай дынастыі быў менскі валадар Глеб. Ён, як і Усяслаў, мусіў ваяваць з Уладзімірам Манамахам. Гэтым разам змаганне скончылася для Полацка няўдала. У 1119 годзе Глеб трапіў у кіеўскі поруб, дзе некалі сядзеў у кайданах разам з бацькам. Гісторыя паўтарылася не да канца: паўстанне не вызваліла вязня, вярнуцца на Бацькаўшчыну яму не давялося.

Калісьці Глеб пабудаваў у кіеўскім Пячорскім манастыры трапезную і ахвяраваў манахам 600 грыўняў срэбра і 50 грыўняў золата. Чарнарызцы маліліся за полацкага князя, аднак ён падазрона хутка, не праседзеўшы ў порубе і году, сканаў.

Нягледзячы на расправу з менскім гаспадаром, Усяславічы і далей вялі сваю, незалежную ад Кіева палітыку. Як занатавана ў летапісе, «несупынна варагуюць паміж сабою ўнучаты Ізяслава і Яраслава і меч трымаюць голы, да вайны гатовы».

1127 год пазначаны ў нашай гісторыі вялікім паходам на крывіцкую дзяржаву. Кіеўскі князь і ягоныя хаўруснікі наступалі з чатырох бакоў – на Заслаўе, Лагойск, Барысаў і Друцк. Паводле плана кіеўскага князя Мсціслава адначасовы штурм полацкіх гарадоў быў прызначаны на 4 жніўня, аднак ягоны сын Ізяслаў здабыў Лагойск на дзень раней.



*Князь Глеб Менскі, сын Усяслава Чарадзея*

Пра далейшыя вайсковыя дзеянні летапісы нічога пэўнага не паведамляюць – вядома толькі, што да сталічнага Полацка ворагі не дайшлі. Гэта было вынікам дыпламатычных захадаў: палачане выправілі з горада свайго князя Давыда Усяславіча з раднёю ды запрасілі другога Чарадзеевага сына – Барыса, які, відаць, болей задавальняў Кіеў.

Барыс валадарыў нядоўга: у 1128 годзе ён сканаў, пакінуўшы па сабе памяць у назове заснаванага ім горада Барысава і ў так званых Барысавых камянях, каштоўных помніках эпіграфікі – навукі, што даследуе старажытныя надпісы.

Адзін з гэтых камянёў можна і сёння ўбачыць у Полацку побач з Сафійскімі мурамі. Паабапал шасціканцовага крыжа на ім высечаны словы: «ХС. Ника. ГМ (Госпадзі) помози рабю своему Борісу».

Думкі гісторыкаў пра паходжанне Барысавых камянёў істотна разыходзяцца. Ёсць меркаванне, што да прыняцця хрысціянства валуны былі паганскімі святынямі. Высякаючы крыжы, полацкі валадар нібыта змагаўся супраць старой веры, а заадно і ўвекавечваў сваё імя.

Акадэмік Б.Рыбакоў звязвае з'яўленне князевых просьбаў аб Божай дапамозе са страшэнным голадам 1127–1128 гадоў, калі снег ляжаў да траўня, мароз пабіў азіміну, людзі елі мох ды салому, і ў суседнім з Полацкам Ноўгарадзе бацькі, каб уратаваць дзяцей ад галоднай смерці, задарма аддавалі іх у рабства. Мікола Ермаловіч лічыць, што камяні – памяткі вайсковых дзеянняў полацкага князя, які напярэдадні паходаў прасіў ва Усявышняга перамогі.

Старэйшага Усяславіча пахавалі ў Барысаглебаўскай царкве ў Бельчыцах. На тых, хто праводзіў Усяславіча ў апошні шлях, пазіралі з цудоўных фрэсак святыя Барыс і Глеб. Размалёўкамі гэтага храма даследчыкі захапляліся яшчэ ў дваццатых гадах нашага стагоддзя. Тады ў Бельчыцах, там, дзе ў сённяшнім Полацку завулак Юбілейны, яшчэ стаялі сцены або падмуркі чатырох старажытных храмаў. Адзін з іх вельмі нагадваў цэрквы, што будавалі ў раннім сярэднявеччы ў Сербіі ды ў Балгарыі, а таксама ў Афонскім манастыры ў Грэцыі.

Разам са смерцю Барыса ў няпамяць пайшлі і вымушаныя прысягі палачанаў Кіеву.



*«Барысаў камень», што знаходзіўся ў Дзвіне. Гравюра XIX ст.*

Кіеўскі князь Мсціслаў прыслаў крывічам загад ісці ў паход на полаўцаў. Усяславічы не проста адмовіліся, але й паздзекаваліся з Мсціслава: «Ты з Баняком Шалудзяком (так звалі палавецкага хана) здаровы будзьце абодва і кіруйцеся самі, а мы маем дома што рабіць». Кіеўскі гаспадар «вельмі оскорбяся» і адразу пасля вайны з качэўнікамі кінуў супраць нашчадкаў Чарадзея дружыны ўсіх украінскіх земляў.

Пяцярых полацкіх князёў, у тым ліку бацьку Ефрасінні Полацкай Святаслава-Георгія, ворагам удалося захапіць у палон і завезці ў Кіеў. Пасля паказальнага суда іх разам з жонкамі і дзецьмі пасадзілі на тры вялікія лодкі ды адправілі ў Візантыю. Тады, відаць, і нарадзілася беларуская прымаўка «Мсціслаў не аднаго сціснуў».

Візантыйскі кесар Іаан, да якога прыбылі выгнаннікі, даводзіўся Рагвалодавічам блізкім сваяком, таму высылка была ганаровай. Крывіцкія князі не сядзелі ў турмах, а займаліся звыклаю справай. Кесар даў ім войска і паслаў супраць сарацынаў (арабаў), на вайне з якімі палачане хутка вызначыліся ваярскім майстэрствам.

Пакуль князі ваявалі з ворагамі Візантыі, кіеўскія намеснікі рабавалі Полацкую зямлю, хадзілі паходамі на яе мірных даннікаў, секлі галовы гуслярам, што адважваліся спяваць быліны пра Чарадзея.

Трэці раз у гісторыі – пасля «крывавага вяселля» Уладзіміра з Рагнедаю і загадкавых смерцяў Рагнеды, яе сына і малалетняга Усяслава Ізяславіча – рабілася спроба звесці полацкую дынастыю са свету. І зноў марна. Калі праз дзесяцігоддзе двое братоў Рагвалодавічаў, Іван і Васіль, вернуцца з высылкі на Бацькаўшчыну, тая ўжо будзе вызваленая ад захопнікаў. Полацкае веча ў 1132 годзе выганіць з горада кіеўскага стаўленіка Святаполка і абвесціць князем Усяслававага ўнука Васільку, якому нейкім чынам ўдалося пазбегнуць выгнання.




*Наступ кіеўскіх князёў на Полацкую зямлю ў 1127 г.*

Летапіс паведамляе: «Полочане же рекше: «лишается нас» и выгнаша Святополка, а Василка посадиша Святославича».

*Уладзімір АРЛОЎ*

# Пленэр на Ушаччыне

Прывітанне, Браце!

Раскажу табе гэтым разам пра Дзясяты міжнародны мастакоўскі пленэр. Ладзіў яго культурна-асветны цэнтр імя Язэпа Драздовіча, а прысвячаўся ён 80-годдзю Васіля Быкава.

Вушача – а менавіта на такім вымаўленні і напісанні настойвае яе пясняр Рыгор Барадулін – прапусціла скрозь лабірынт вуліц і завулкаў да Школьнай, 6, да дома з чырвонай цэглы на цяністым панадворку. Паэт сустрэў нас радасна, хоць быў і не ў лепшай фізічнай форме, надоечы ноччу сарваўся ён з лесвіцы.

На знакамітым мемарыяльным комплексе пайшлі пілігрымы-пленэраўцы на «Прарыў». Помнік, за ўзвядзеннем якога сачыў Пётр Машэраў, успрымаецца цяпер не больш як даніна часу. Куды болей уражваюць масянжовыя дошкі з імёнамі тых, хто загінуў, прарываючы фашысцкую блакаду. Ёсць сярод іх і Быкавы. І яшчэ адна дэталь ад Сяргея Законнікава – у навакольных лясах і сёння нямала хваін, што нясуць у ствалах па некалькі дзясяткаў куль.

Крыху паблукалі па прасёлках, але як дапялі Кублічаў, дык мімаволі прыгадалася «Царква ў Кублічах» ды іншыя быкаўскія малюнкі.

А першае візуальнае ўражанне ад Бычкоў – навюткія платы, пафарбаваныя чамусьці ва «ўкраінскія», жоўта-блакітныя колеры.

Лагер з намётаў быў разбіты пры хаце быкаўскай сваячкі Антаніны. Колісь у ёй мясцілася школка, у якой вучыўся і будучы класік, а маладзенькія бусляняты здзіўлена пазіралі са сваёй буслянкі – адкуль гэта панаехала столькі народу?!

Сталічная дэлегацыя прыбыла не першаю. А таму пасляшаліся мы з арганізацыйнымі турботамі да Ады Райчонак, якая апекавалася пленэрам. Прымала яна вельмі сардэчна і адно толькі няўцямна пазірала на Аляксандра Родзіна з ягоным малодшым калегам-падмайстрам, якія, нібыта кагуляры ў чорных апранахах, доўжылі свой перманентны перфоманс.

«Філіял Ушацкага музея народнай славы імя У.Е.Лабанка. Сядзіба-музей Васіля Быкава». Такая шыльда прышрубаваная да навюткай, з бярвення як звон, хаціны. Спачатку я зніякавеў – Быкаў... Лабанок?

Прызнаюся, не адразу згадаў, што апошні быў адным з арганізатараў партызаншчыны на Віцебшчыне, а потым – партыйна-дзяржаўным функцыянерам. Дый вызначэнне «сядзіба-музей» як мінімум спрэчнае, бо адшукаць там аўтэнтыку досыць праблематычна. Не ведаю, ці павернецца ў якога гіда язык, каб заявіць: «У гэтай хаце нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі...»?!



Сядзіба-музей. В. Быкава: першыя дні

Згадалася, што колісь і ў нашым Жодзіне тады яшчэ савецкія ўлады адбудавалі сядзібу-музей маці-патрыёткі Анастасіі Купрыянавай. Разумею, што нельга вадзіць экскурсіі ў хату, што ў аварыйным стане, але ж нельга ўсё пабурыць і цалкам адбудаваць нанова. Існуюць жа такія паняцці, як кансервацыя і рэстаўрацыя! І ці бачыў ты, Браце, дзе-небудзь сялянскі падворак, пасыпаны гранітным шчэбнем?!

Але ж як там ні было, маем сёння тое, што маем. Ластаўкі дык і гняздо паспелі звіць пад вільчыкам пры франтоне. На гэта, як на добры знак, зважалі ўдзельнікі літаратурнай імпрэзы. Думкамі пра творчую спадчыну Быкава і яе значэнне для нашае нацыі – як напісаў бы ў сваім рэпартажы журналіст – падзяліліся Лявон Баршчэўскі, Сяргей Законнікаў, загадчыца аддзела культуры райвыканкама. Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Міхась Скобла чыталі вершы. Анатоль Верабей паказаў і пракаментаваў вершаваныя подпісы Караткевіча да унікальных здымкаў, на якіх Васіль Уладзіміравіч поруч з самім Уладзімірам Сямёнавічам Караткевічам у творчым адпачынку. Валодзя Някляеў падарыў музею кепку, якую атрымаў ад Васіля Уладзіміравіча яшчэ ў Фінляндыі. А я спрэзентаваў «Избранное» нашага класіка, выдадзенае сёлета ў Маскве. Пашчасціла, як я,здаецца, ужо пісаў табе, спрычыніцца да выхаду гэтага грунтоўнага тома ў якасьці складальніка, рэдактара і аднаго з перакладчыкаў.

Акрамя літаратурнага (дазволю сабе вайсковы тэрмін) дэсанта, прамаўлялі мастакі Алесь Марачкін і Уладзімір Сулкоўскі, а таксама фотамайстар Георгій Ліхтаровіч. А захавальніца музея Антаніна запрасіла гасцей і аднавяскоўцаў агледзець экспазіцыю. На жаль, пакуль што небагатую.

Думалася – вельмі хораша, што нашыя творцы хаўрусуюцца. Гэта сімвалічна і заканамерна: шматграннымі творцамі — мастакамі і адначасова літаратарамі былі Драздовіч і Быкаў. І сёння сумяшчаюць мастакоўскую творчасць з прыгожым пісьменствам некаторыя ўдзельнікі пленэру.

Літаратурнае жыццё – праз быліцы, показкі і анекдоты – бруіла і на сяброўскай вячэры. За тамаду на ёй быў бард Віктар Шалкевіч і, трэба прызнаць, з абавязкамі сваімі спраўляўся выдатна...

А раніцай ягоны калега Зміцер Сідаровіч пабудзіў пленэраўцаў мелодыямі не гітары, а дуды.

Але ж я паспеў да гэтае пабудкі прайсціся па цэнтральнай вуліцы з амерыканцам і японцам – з фотаапаратам «Kodak» і дыктафонам «Sony». Бычкоўцы выганялі на пашу нешматлікіх кароў і амаль што не саромеліся ні аб'ектыва, ні мікрафона. Мабыць, былі не супраць крышачку пагрэцца ў промнях славы свайго вялікага земляка-аднавяскоўца. Сямідзесяцішасцігадовая Соф'я Быкава не толькі спрытна пераапранулася ў чысцейшае, але й вывела з хлява папазіраваць сваю любіміцу-казу.

Адзняў блізу сарака кадраў і, забягаючы наперад, скажу табе, Браце, што паспеў праявіць стужкі і надрукаваць фоткі. Некалькі здымкаў атрымалася вельмі цікавых. Падумваю нават, ці не выклеіць планшэт з тае фотасесіі? Зрабіць да фотак паэтычныя або канцэптуальныя назвы, каб атрымалася штосьці пад агульнаю назваю «Раніца ў Бычках»? А здымаў тым ранкам калодзежы, дрывотні, брамы, могілкі, парканы, пакінутыя сядзібы, а таксама вяскоўцаў і мастакоў за працаю.

Ці не першы паспеў павіншаваць з днём народзінаў Алеся Пушкіна – спрэзентаваў яму свой паэтычны зборнік «Высакосны год». Спытаўся, пра што марыць імяніннік у Бычках, а той адказаў: «Напісаць партрэт Васіля Уладзіміравіча Быкава. Гэта першая і асноўная задача на бліжэйшы час. Маю выдатныя фотапартрэты Быкава ад Уладзіміра Кармілкіна, зробленыя яшчэ на пахаванні Алеся Адамовіча. Мне не хапала толькі запіткі і выяваў быкаўскай зямлі... А так мару і думаю пра сям'ю, пра Беларусь, пра свой Бобр. І пра тое, каб на гэтай зямлі мы былі гаспадарамі».



Мастакі з Валянцінай Уладзіміраўнай, сястрой Васіля Быкава

Усё ж у Бычках мастакі, у большасьці сваёй, пачуваліся вельмі хораша. Адны прагна накінуліся на натуру, другія выправіліся аглядаць наваколлі ажно да касцёла ў Селішчы, трэція «раскачваліся» – сузіралі надазёрную красу, чацвёртыя гаманілі з роднай сястрою Быкава Валянцінаю.

Сяргей Шатохін рабіў з дапамогаю мясцовых мальцаў паветку над варыўняй.

Непадалёк Аляксей Марачкін распачаў своеасаблівы дыптых на... дзвярах ад шафы, знойдзенай на закінутай сялібе. А яшчэ ў яго замест палатна была прызапасена... прасніца!

Пад раскідзістым клёнам Эдуард Агуновіч шчыраваў над парным партрэтам сястрычак Быкавых-Баратынскіх (пагадзіся, проста шыкоўнае прозвішча!), якія прыкацілі на роварах з Кублічаў. Дарэчы, якраз спадар Эдуард распрацоўвае канцэпцыю музея-сядзібы Васіля Быкава разам з дырэктарам Ушацкага музея Мікалаем Кірпічам.

Асабіста я, Браце, такім адпачынкам, як паездка на пленэр, усцешаны. Аднавіў колішнія студэнцкія ўражанні, пабачыў быкаўскую малую радзіму, папрацаваў поруч з даўнімі сябрамі, займеў прыемныя знаёмствы. Але, на вялікі жаль, мусіў вяртацца ў сталіцу раней, чым планаваў – меў як вытворчы, так і сямейны клопат.

Ад'язджаў, але ведаў, што напішуцца новыя эцюды, што складуцца вершаваныя радкі, што здымуцца фотасерыі «Закінутыя хутары» і «Жыве Беларусь!» Быў упэўнены, што пад'едуць у Бычкі Алесь Шатэрнік і іншыя творцы, што на закрыцці пленэру Рыгор Барадулін прачытае новыя паэтычныя радкі і праспявае пры вогнішчы народныя песні. Прадчуваў, як усцешацца жыхары навакольных вёсак запрашэнню на выставу, як будуць узрадавана пазнаваць на палотнах аднавяскоўцаў і родныя краявіды. Суцяшаўся і тым, што стане пленэр у Бычках традыцыйным, што створанае і задуманае на ім можна будзе пабачыць на выставах у Віцебску і ў Мінску, а калі пашчасціць, дык і ў выдадзеным каталогу...

А я, калі захочаш, пакажу табе бліжэйшым часам міні-альбомчык «tattoo на тэмы творчасці Уладзіміра Караткевіча» ад Алеся Пушкіна, а таксама свае фотаздымкі і замалёўкі, дам паслухаць аўдыёзапісы з Бычкоў.

А покуль што развітваюся. Бывай здаровы, Браце!

***Уладзімір СІЎЧЫКАЎ***
***Мінск–Вушача–Бычкі–Мінск***
***Фота Уладзіміра Сіўчыкава***

# Сустрэча з Нямігай

Аднойчы дзядуля спытаўся:

– Сержык, а ці ведаеш ты, што такое Няміга?

– Чаму ж не ведаю?! Ведаю! Няміга – гэта станцыя метро, і яшчэ вуліца такая ёсць, я на ёй кожны дзень бываю.

– А ці ведаеш ты, што пад гэтай вуліцай, пад асфальтам, цячэ рэчка – Няміга?

– Няўжо?

– Так. Калісьці гэта была сапраўдная рэчка, як Пціч. З лугавінамі, з хмызамі. А потым яе загналі ў трубу. Хочаш паглядзець на яе, хоць на яе вусце?

– Хачу! Але як жа мы паглядзім, калі яна – пад асфальтам, у трубе?!

А якраз гэтаю парою чысцілі Свіслач, і вада спала амаль да дна.

Мы з дзядулем накіраваліся да таго месца, дзе Нямігу адвялі ў Свіслач. Там убачылі невялічкі, празрысты, імклівы вадаспадзік. Ён бруіўся чыстай крынічкай па каменьчыках аднекуль з-пад зямлі. Нам захацелася паглядзець, адкуль вылятае гэты вадаспадзік. Мы скокнулі ўніз, на сухое дно Свіслачы.

Там былі два тунэлі. З аднаго выцякала празрыстая вада. Вышыня тунэля – больш за метр. Метраў праз дваццаць ён паварочвае направа, пад вуліцу Нямігу. Побач з першым тунэлем – зеўра другога. У ёй мы нечакана ўбачылі нейкія ледзяныя фігуркі. Яны нагадвалі бутэлечкі з-пад малака. У кожнай была свая ці то капялюшык-шалом, ці то галоўка. Гэтых бутэлечак было са дваццаць. Кожная з іх нагадвала ваяра, і яны стаялі, як сапраўднае войска. Мы доўга думалі, дзівіліся, але так і не здагадаліся, адкуль яны ўзяліся.

Усе фігуркі ваяроў былі аднолькавыя, на адзін узор. У нас не было фотаапарата, і дзядуля прапанаваў мне замаляваць гэтых слаўных ледзяных ваяроў. Я маляваў і думаў:

За што, за што
Пасадзілі, Няміга, цябе?
За што, за што
Сядзіць Няміга
Ў трубе?
Сядзіць у трубе,
Як у турме.
А была ж ты ракой, ды прыгожай такой:
З лугавінкамі, з чаўнамі.
На Нямізе галовы клаліся снапамі.
За што ж, за што
Сядзіць Няміга ў трубе?

З «Белорусской деловой газеты» вычытаў, што ў другой палове 1920-х гадоў Нямігу ў яе ніжняй плыні загналі ў бетонны калектар пад аднайменнай вуліцай. А ў 1960 - х ужо ўся Няміга была схавана пад зямлю ў бетонную трубу. Даўжыня Нямігі прыкладна тры з паловай кіламетры. Невялікая рэчка, але калісьці яна разлівалася і рабіла шмат клопату людзям. На карце Мінска XIX стагоддзя Няміга была пазначана ручаінкай, якая брала выток дзесьці ў Грушаўскім абсягу. А я ж якраз там і жыву, то мне і цікава было паглядзець, дзе яе выток, а дзе вусце. З Нямігай звязаная першая ўзгадка аб Мінску ў «Слове аб палку Ігаравым», з 1067 годам.



У нашай сталіцы яшчэ ёсць людзі, якія памятаюць Нямігу. Праўда, няшмат іх. Ад адной з іх, бабулькі Ліны, я пачуў:

– Няміга ўжо была маленькая, вузенькая, як ручаінка. Дзеці звалі яе Няміжкай. І от яны пускалі ў Нямігу караблікі і беглі за імі да той пары, пакуль тыя не ўляталі ў Свіслач.

***Сержык ЧЫЛІКІН-САДЭЛЬСКІ, вучань 7 класа СШ № 51 г. Мінска***





# Студэнты займаюцца краязнаўчым і вясковым турызмам

Студэнты Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава, якія вучацца па спецыяльнасці «Музейная справа і ахова помнікаў гісторыі і культуры. Культурная спадчына і міжнародны турызм», па ініцыятыве рэктара гэтай ВНУ А.У. Русецкага стварылі універсітэцкі турыстычны цэнтр. Тут яны вучацца быць прафесіянальнымі экскурсаводамі і тур-менеджарамі.

Паводле слоў прарэктара па выхаваўчай рабоце Ірыны Бондал, універсітэцкі турыстычны цэнтр «Мара» дазваляе ажыццяўляць выхаваўчую работу, бо будучыя настаўнікі і спецыялісты іншых прафесій проста абавязаны добра ведаць гісторыю сваёй краіны, азнаёміцца з нацыянальнымі помнікамі Беларусі. Дзякуючы «Мары» студэнты могуць пабываць у старажытным Полацку, Міры, Нясвіжы, Навагрудку, Заслаўі, Жыровічах і іншых архітэктурных жамчужынах Беларусі.

Акрамя краязнаўчага, студэнты займаюцца арганізацыяй вясковага і экалагічнага турызму, і ўжо ёсць жадаючыя палавіць рыбку на беразе возера і адпачыць у вясковай хаце.

Турцэнтр супрацоўнічае з замежнымі «альма-матэр» і арганізуе турыстычныя туры па Беларусі для іншаземных студэнтаў. На фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» па запрашэнні студэнтаў ВДУ прыедуць студэнты з Германіі, якія будуць жыць на базе адпачынку універсітэта. Дарэчы, студэнты ВДУ таксама ездзяць за мяжу, дзе можна нават трохі зарабіць.

Вялікую работу цэнтр «Мара» ажыццяўляе і па аздараўленні студэнтаў на базах адпачынку Чорнага мора. Цэны на такія пуцёўкі сапраўды студэнцкія: напрыклад, адпачынак у Феадосіі і Судаку на працягу 12 дзён каштуе ўсяго 85 умоўных адзінак.

Турыстычны цэнтр «Мара» ВДУ – структура некамерцыйная. Галоўная яго мэта – фарміраванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі і патрыятычных поглядаў у студэнтаў, якія павінны азнаёміцца з вялікай і слаўнай гісторыяй роднай дзяржавы, дакрануцца да помнікаў Беларусі, якімі ганарыцца нацыя.

*Аляксандр ПУКШАНСКІ*

Успаміны салдата

# ДАГАНЯЮЧЫ ВАЙНУ

## (Некалькі дзён з жыцця на перадавой)

***Паэт Аляксей Пысін пісаў:***

**А хтосьці з той стралковай роты**
**Падняўся першы і загінуў.**
**І стаў пяском, травою, глінай**
**Ты быў другі. А, можа, соты.**
**А, можа, тысячны, мільённы...**

***Так, я быў мільённы, а можа, і дзесяцімільённы. Мне было лягчэй, я толькі даганяў вайну. Даганяў, маючы ўсё ж такі за плячыма нейкі вопыт – вопыт жыцця пад акупацыяй.***

***У 1944 годзе фашысты агрызаліся яшчэ смяротна, але ўсё ж адступалі.***

***На вайне ў кожнага салдата па-свойму складваўся лёс. Вось гэтая адметнасць непадобнасці баявых дарог, атак, перадышак можа з'явіцца непаўторнай старонкай жывой, салдацкай, гісторыі Вялікай Айчыннай.***

***Я хачу прыгадаць усяго толькі некалькі дзён з жыцця на перадавой.***

## Першае раненне

Усю ноч кружылі па лясных дарогах і ўсю ноч па-асенняму нудна ліў дождж. На досвітку выйшлі з лесу на бульбяное поле. Тут нам паставілі баявую задачу: пры падтрымцы танкаў выбіць немцаў з вёскі, якая была моцным вузлом у абароне праціўніка.

Размясціліся мы непадалёк ад палявой дарогі, у прамоклых шынелях заляглі ў гразкія, але гатовыя ячэйкі. Чакаем сігнала да наступлення. Немцы, напэўна, заўважылі нас і пачалі артылерыйскі абстрэл. Снарады падалі каля нашых акопчыкаў, і я ў думках маліўся, каб пранесло мяне прамое пападанне.

Блізу поўдня пачулася вуркатанне нашых танкаў. Праехаліся побач некалькі разоў, але хутка іх шум усё слабеў і неўзабаве зусім заціх.

Пасля поўдні гулка запрацавала наша артылерыя. Прагучала каманда наступаць. Не паспелі перайсці дарогу, як нас пачалі прастрэльваць кулямётныя чэргі. Таму – кароткія прабежкі, і ў хуткім часе ўскочылі ў глыбокі процітанкавы роў. Толькі цяпер мы зразумелі прычыну бяздзейнасці нашых танкаў.

Як вокам кінуць роў запоўніўся салдатамі. Ён, вядома, быў прыстраляны і мог у любы час стаць жывой мішэнню, жудаснай мясарубкай.

Таму доўга заседжвацца не выпадала, і адзін афіцэр закамандаваў падымацца ўверх і працягваць наступленне. Другі запярэчыў, маўляў, наша артылерыя яшчэ б'е па вёсцы і подступах да яе. На гэта першы адказаў, што ён звязаўся з артылерыстамі – тыя свой агонь перанясуць у глыбіню абароны, і больш сурова і катэгарычна загадаў наступаць.

Сапёрнай рыдлёўкай выдзеўб прыступкі, па іх ускараскаўся наверх і кароткімі прабежкамі разам са многімі пасляшаўся да вёскі. Праскочылі ўжо ладную адлегласць. Падняўся рабіць чарговую прабежку, як па ўсіх, хто наступаў, моцна ўдарылі кулямёты. Не раздумваючы, адразу ж бразнаўся вобзем. І тут амаль побач разарваўся снарад. Мяне перакруціла некалькі разоў, абарвала рэчавы мяшок. Я адчуў, што паранены. Не марудзячы залез у варонку «свайго» снарада і заўважыў: немцы перайшлі ў контратаку. Справа з вёскі высыпала пяхота. Па цэнтры, акурат насупраць мяне, – пасунуліся танкі. Танкі, праўда, спыніліся і пачалі біць прамой наводкай. Гляджу – нашы паварочваюцца і бягуць назад. Варожая пяхота ўзяла кірунак на процітанкавы роў. І калі на іх шляху пападаліся нашы бездапаможныя параненыя, то немцы дабівалі іх.

Мне было чуваць, як параненыя жаласліва клікалі дапамогу: «Санітар! Санітар!» А пасля істэрычны выкрык: «Ай! Ай-яй-яй!» І ўслед – аўтаматныя чэргі. Крык замаўкаў. Так паўтаралася шмат разоў.

Я не раздзяліў трагічную долю гэтых параненых, бо варонка, мая выратавальніца, была далёка ад процітанкавага рова і знаходзілася ў паласе наступлення танкаў.

Каб прыпыніць контратаку немцаў, уступіла ў бой наша артылерыя. І я трапіў пад яе ўраганны абстрэл. Нямецкія танкі і пяхота вярнуліся ў свае ўкрыцці, і паступова наўкола ўсё сціхла. Бой, па сутнасці, закончыўся. Супрацьлеглыя войскі адышлі на свае пазіцыі, а я, паранены, застаўся ляжаць на нейтральным полі.

Стала вечарэць. Як жа цяпер выбрацца з гэтага пекла? Толькі на сутонні пачаў рыхтавацца ў дарогу. Адшпіліў саперную рыдлёўку, зняў і адкінуў каску. У пілотку панаўтыркаў сцяблінкі траў і памкнуўся ўстаць з варонкі. Не паспеў стаць на ногі, як востра кальнула ў бядро, і нясцерпны боль працяў усё цела. Прыйшлося дзейнічаць толькі рукамі. Выкідваў іх наперад, ушчарэпліваўся за зямлю і падцягваў усяго сябе. Ад кожнага такога напружання адчуваў, як сачылася рана. Але ж трэба шукаць паратунку. І я працягваў сантыметр за сантыметрам перадольваць нейтральнае поле.

Прапоўз ужо метраў з трыццаць і ўбачыў, як ад процітанкавага рова прабеглі сілуэты людзей. Мне падалося, што яны накіроўваюцца ў мой бок. Я выхапіў гранату «лімонку». На аўтамат было мала надзеі: столькі цягнучы яго па зямлі, я быў упэўнены, што ён набіты пяском і можа не спрацаваць. Праўда, я зашмат пагарачыўся. Трэба было трымаць «лімонку» напагатове, а я ліхаманкава вырваў чаку, загадзя прыціснуўшы дужку да гранаты: намерваўся кідаць. Прайшла мінута, другая... пятая... дзесятая... Але нікога няма. Ужо і рука анямела. Нельга было нават на нейкае імгненне адпусціць дужку, інакш – немінучы выбух. Кінуць далёка гранату я ўжо не меў моцы, можна і сябе падарваць. Яшчэ пачакаў – нікога няма. Прыціскаючы што сілы дужку да гранаты, зноў пачаў рухацца.

І як на бяду раптам затарахцеў самалёт і развесіў у небе ліхтары. Яны ярка асвяцілі ўсё наваколле. Спачатку я не звяртаў увагі і поўз сабе далей, але пасля замёр на месцы, бо самалёт усё кружыць і кружыць. І што дзіўна: то тарахціць, то ні гуку. Цішыня. І вось раптам прама перада мной выбух, за ім другі... І ўсё бліжэй і бліжэй. «Ну, думаю, канец!» Але разрывы пачалі аддаляцца ад мяне такім паўкругам, нібы веерам. І заглохлі недзе ўводдалі.

Нарэшце і процітанкавы роў. Глянуў уніз, а там усё дно ўслана нашымі мёртвымі салдатамі! Ляжаць і ў вадзе палошчуцца. Скаціўся ў роў і цераз сілу, не могучы пастаяць перад таварышамі па зброі, пачаў узбірацца наверх. Першая спроба была няўдалая. Прыкмеціў нешта падобнае на прыступкі. Па іх усё-такі выбраўся наверх.



*Кастрычнік 1944 г.*
*Вайсковы шпіталь пад Беластокам*

Адпачыў крыху і зноў у дарогу. Але нечакана забуксаваў. Бульбу тут выкапалі, поле мяккае, сыпучае, апоры рукам няма. Сам ні з месца, а рукі толькі пясок грабуць. У правай – усё той жа смертаносны груз. А тут ужо і стома адольвае, на сон цягне. Заснуць, вядома, можна. Але ці прачнешся? Ад сваёй жа гранаты загінеш.

Павярнуў крыху ўбок і, на шчасце, напароўся на цвёрдую градку. Па ёй прыблізіўся да нявыкапанага бульбянога поля. Цяпер у мяне ўсё спарней пайшло. Успомнілася, што хутка павінна быць дарога, якую перабягалі ў пачатку наступлення.

Бачу, нехта ідзе. Прыгледзеўся: шпарка крочаць, амаль подбегам, трое. Сілуэты плашч-палатак, аўтаматаў, касак, абрыўкі фраз пераканалі мяне, што гэта нашы салдаты. Рашыўся паклікаць:

– Таварышы, дапамажыце!

Яны спыніліся.

– Я свой, паранены...

Падбеглі, распытваюць. Я коратка адказаў і пацікавіўся пра свой 609-ы полк. Ад яго мала што засталося.

– Рэшткі, – кажуць, – адправілі ў тыл. Тут цяпер іншая часць. Дапамагчы табе не можам. Спяшаемся ў разведку. Ты каля дарогі павярні налева, а там недалёка нашы артылерысты будуць.

Папрасіў вызваліць руку ад гранаты. Выявілася, што рука мая сціснула «лімонку» мёртвай хваткай. Не маглі расчапіць далонь. Давялося разгінаць па адным пальцы. Асцярожна прывязалі дужку да гранаты, а мне параілі не адчайвацца і паспяшаліся ў разведку.

Адразу адчуў фізічную лёгкасць, расслабіўся. Імгненна апанавала млявасць. Прапоўз якіх пару метраў – і заснуў. Прыхаваны бульбоўнікам, спаў моцным маладзецкім сном. Прачнуўся, а сонца ўжо ў зеніце, прыгравае ў спіну. Успомніў, дзе я і што гэта яшчэ нічыйнае поле. Трэба ж прабівацца да сваіх.

Рухацца стала ўжо лягчэй. Вось і дарога. Зірнуў улева і як пільна ні ўглядаўся, не заўважыў артылерыстаў. Таму рашыў паўзці ў лес, з якога ўчора раніцай пачалі наступаць.

Дабраўся да кювета. І толькі хацеў падняцца на дарогу, як засвісталі кулі. Я – назад. Азірнуўся па баках. Злева дарога апускаецца ў лагчынку. Дапаўзаю да лагчынкі, па ёй перасек дарогу і далей полем рухаюся паціху ў лес. Як на зло нямецкая артылерыя пачала абстрэльваць гэты лес. Што рабіць? Заўважыў трохі ўбаку, злева, вывернутыя глыбы зямлі. Падпоўз. Варонка з-пад бомбы. Глыбокая, прасторная. Скаціўся ўніз, агледзеўся вакол і толькі цяпер заўважыў пляцоўку артылерыстаў.

Як высветлілася, я апынуўся амаль у іхнім тыле. Што сілы паўзу. Усцягваюся на пляцоўку. Нікога, ні адзінай душы. Тады з акопчыкаў, зверху замаскіраваных сеткай, галінкамі, лісцем, высунуліся галовы артылерыстаў, і чую прыглушаны голас:

– Хутчэй хавайся пад кусцікі. Наша гармата ў процітанкавым сакрэце. Мы за табой ужо даўно назіраем. Апоўначы прыйдзе наш старшына. Прынясе есці, табе дапаможа. А цяпер падпаўзай да паўмежка і чакай ночы.

Я так і зрабіў. Прылёг ля паўмежка з кусцікамі і так лёгка-лёгка сталася на душы – людзі побач. Але спакой раскалолі на дзіва траскучыя разрывы. Абстрэл цягнуўся доўга і, здавалася, вось-вось разнясе наша сховішча.

Чую, адзін пытаецца:

– Ці жывы там наш прыблуда?

– Жывы, – адказваю.

– Ну, цярпі, цярпі...

Ноччу прыйшоў старшына, супакоіў мяне:

– Прышлю санітараў.

Прыйшлі два санітары, расклалі плашч-палатку, ускацілі мяне на яе і прынеслі ў санроту. Тут мне далі пад'есці. Але я не мог трымаць лыжку. Кармілі мяне як немаўля.

З санроты адвезлі ў медсанбат. Тут апрацавалі рану, зрабілі перавязку. Прайшло амаль двое сутак пасля ранення. З медсанбата на санітарнай машыне перакачаваў у эвакашпіталь, пасля ў другі. На пастаяннае лячэнне прывезлі ў бальнічны гарадок у Хорашчах, што знаходзіўся ў прыгарадзе Беластока.

Ужо як акрыяў, напісаў дадому: знаходжуся ў маленькім рамонце.

А з 609-га палка паслалі домаў маці паведамленне, што я ў баях «за савецкую Радзіму 10 верасня 1944 года загінуў смерцю храбрых і пахаваны ў двухстах метрах ад хутара Чары Ломжанскага раёна Беластоцкай вобласці».

Чаму так сталася? Усе з папаўнення здалі свае чырвонаармейскія кніжкі ў штаб батальёна для нейкіх запісаў. Сярод жывых мяне не аказалася, у спісах параненых адсутнічаў (мяне падабралі з другога корпуса). А ў тых баях полк панёс вялікія страты, было шмат загінулых. У іх лік залічылі і мяне.

**Валянцін ЕРМАЛОВІЧ,**
**заслужаны работнік культуры Беларусі, інвалід Вялікай Айчыннай вайны ІІ групы**

**(Заканчэнне будзе)**





# Зноў – пра аўтарства
## «Слова аб паходзе Ігаравым»

*(Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1)*

Захапіўшыся асобай Кірылы Тураўскага, яго вобразнымі пропаведзямі-«словамі», а потым і «Словам аб паходзе Ігаравым», я задумаўся: а ці сумяшчаюцца і гэтыя па форме розныя (духоўныя і свецкі) творы, ці не могуць яны належаць аднаму і таму ж аўтару?! Паступова здагадка ператваралася ў перакананне. Яно ўзмацнілася ў час апошняга наведвання Турава вясной бягучага года.

Пераадольваючы сумненні, я павінен быў высветліць для сябе, а цяпер і для чытачоў некалькі пытанняў. І першае з іх: **ці мог Кірыла Тураўскі напісаць «Слова аб паходзе Ігаравым» па часе, па гадах жыцця?**

Як лічыцца ў даведніках, Кірыла Тураўскі нарадзіўся ў Тураве, у заможнай сям'і, каля 1113 года, а памёр каля 1198 года (паводле даследавання Аляксея Мельнікава). Праўда, некаторыя даследчыкі лічаць часам смерці Свяціцеля 1182 год, калі на епіскапстве яго змяніў стаўленік Кіева-Пячэрскай лаўры. У «Жыціі» Кірылы Тураўскага апісаны ён так: «Подобием надсед, власы с ушей, брада с Николину, – но не курчевата – проста, риза святительская во амофоре» (цытую па А. Мельнікаву; усе спасылкі абмяжоўваюцца ўказаннем аўтара). Так мог выглядаць толькі стары чалавек, якому каля 70 гадоў (П. Лысенка мяркуе, што ён памёр у 72 гады, ужо не будучы епіскапам, а толькі манахам-«стоўпнікам»). А, як вядома, «Слова аб паходзе Ігаравым» напісана ў 1187 годзе, калі Свяціцелю было за 70 гадоў. Ён мог не толькі чуць, а і быць сведкам няўдалага паходу Ігара Святаслававіча, які княжыў у недалёкім Ноўгарадзе-Северскім, супраць полаўцаў. Акадэмік Дзмітрый Ліхачоў лічыць, што «Слова аб паходзе Ігаравым» напісана як пратакол свежай падзеі. Значыць, па гадах жыцця Кірыла Тураўскі мог быць аўтарам неўміручага помніка ўсходнеславянскага пісьменства.

Вельмі важна, што на іконах і малюнках мастакоў Кірыла Тураўскі паўстае чалавекам сталым, якому не менш за 60 гадоў. У такім узросце златавуст меў маральнае права павучаць не толькі просты люд, але і князёў, у тым ліку суседніх. Ён не мог абысці ўвагай паражэнне князя Ігара, які на той час валодаў і радзіміцкімі землямі, у тым ліку Гоміем. Ацэньваў трагічныя падзеі сумленна, аб'ектыўна, нібы збоку – як суддзя, духоўны і свецкі. Д. Ліхачоў лічыць (і гэта для нас вельмі важна), што аўтар «Слова» не быў ні прыдворным, ні дружыннікам. Ён займаў сваю, незалежную патрыятычную пазіцыю, па духу свайму блізкую шырокім слаям насельніцтва Русі.

Адкуль жа такая зацікаўленасць і дасведчанасць аўтара, такія яго «цэнтрысцкія», збіральніцкія клопаты? Калі глянуць на старыя карты, відаць, што Тураў знаходзіўся ў геаграфічным цэнтры гістарычнай Русі. Бо з захаду была (згадаем хаця б Данілу Галіцкага) Чырвоная Русь, з паўночнага захаду – Чорная Русь з Гародняй і Ваўкавыскам (успомнім мужнага Давіда Градзенскага), з поўначы – Русь Белая, Полацкае, Смаленскае, Віцебскае, Друцкае, Менскае княствы, землі крывічоў, з усходу – Ноўгарад-Северскае княства; а з поўдня – Вялікі Кіеў, адкуль ішла хрысціянская вера. Вялікім князем Уладзімірам і яго наступнікамі яна паступова прасоўвалася ўздоўж Дняпра-Славуціча на поўнач. А з хрысціянствам – і звесткі пра антычныя часы.

Дык як жа ў такой балотнай глушэчы, у Тураве, з'явіўся златавуст, «просиявший паче всех на Руси»? А вось так. Па Дняпры, Прыпяці, Бярэзіне ўжо з VI стагоддзя ішлі гандлёвыя шляхі з «варагаў у грэкі». А Прыпяць пры ўпадзенні ў яе рэчкі Язды падыходзіла да самага гарадзішча Тураў, заснаванага на наносным рачным пяску. Не толькі будаўнікі, нават печнікі, шануючы, не бралі адсюль той пясок па даўняй традыцыі... Дзякуючы гандлю, выгаднаму геаграфічнаму становішчу паўстаў на дубовых сваях горад. І які! Вядома, што менавіта пасад Тураўскага княства даставаўся старэйшым сынам вялікага князя Кіеўскага. А потым чатыры тураўскія князі сталі вялікімі князямі кіеўскімі.

І якія б ні былі адносіны паміж грэчаскімі і славянскімі валадарамі, мітрапаліцкая кафедра ў Кіеве заўсёды заставалася пашыральніцай візантыйскай культуры. Тут ствараліся рукапісныя кнігі. З Канстанцінопаля Русь атрымлівала багатыя дары, сярод якіх віднае месца займалі іконы, посуд, эмалі, адзенне мітрапалітаў, князёў і прапаведнікаў. Мы былі для хрысціянства не на ўскраіне Еўропы. Таму першапраходцы з «другога Рыма» – Канстанцінопаля, роўнаапостальныя Кірыл і Мяфодзій неслі на поўнач новую мараль, «Новы запавет», пісьменства ўвогуле аж да Вялікага Ноўгарада праз нашы Тураў, Друцк, Віцебск, Полацк. А ў адваротным напрамку ішлі веды і пра нашы землі ў Канстанцінопаль, дзе ў раёне царквы св. Георгія быў нават цэлы квартал, густа заселены рускімі купцамі і паломнікамі. Па шляху «з варагаў у грэкі» незадоўга да сечы з полаўцамі і напісання «Слова» накіроўвалася ў Канстанцінопаль і далей, у Святую зямлю, прападобная Ефрасіння Полацкая. І хто ведае, ці не ехала яна праз Тураў і ці не благаславіў яе на далейшае паломніцтва Свяціцель Кірыла?! Ці не давала ёй парады грачанка Варвара, якая жыла там непадалёку?

На «стоўпніцы» Варвары трэба спыніцца падрабязней, бо найперш ад яе Кірыла Тураўскі (і толькі ён, а не нейкі ваяр Ігара Святаслававіча) мог атрымаць відавочныя ў «Слове» звесткі пра антычныя часы, скажам, пра імператара Траяна. Менавіта Варвара сярод багатых дароў прывезла ў Кіеў для храма Архангела Міхаіла мошчы велікамучаніцы Варвары і вучоных духоўных пастыраў. Паводле акадэміка Аляксея Шахматава, грачанка (у яе было і другое імя – Ірына) стала жонкай Святаполка Ізяславіча, князя Тураўскага, калі ён заняў кіеўскі трон.

Потым, пераехаўшы ў Тураў, аказаўшыся адзінокай, ідэалам сваім яна выбрала адрачэнне ад свецкага жыцця. Разам з ёю сюды перасялілася спадарожная духоўная світа – эліта філасофска-евангелічнай думкі тагачаснай Еўропы. Я ўпэўнены, што менавіта гэтыя настаўнікі распазналі ў маладым Кірыле дар Божы і пераказалі яму глыбокія веды не толькі пра «Евангелле», але і па грэчаскай філасофіі, рымскай гісторыі. Такім чынам, іх вучань стаў, можа, самым адукаваным чалавекам на Русі. Па прыкладзе Кірылы і Мяфодзія спадарожнікі Варвары вандравалі з Турава да Сулы, па Іпуці, Арэсе, Гарыні і неслі з сабой новую мараль – хрысціянскае вучэнне, засвойвалі геаграфію Русі. Упэўнены, што малады і здольны Свяціцель не толькі з імі падарожнічаў, але і набіраўся патрыятычных пачуццяў, такіх выразных у «Слове»: якая ж цудоўная зямля сталася яго суродзічам ад Бога!

А цяпер – пра асноўнае. Ці магло «Слова» быць створана пры двары Яраславічаў, калі ў ім «успяваецца Усяслаў-Чарадзей», які «воўкам рыскаў» (успомнім тут выказванне Герадота)? «Князь людям судяше, князем грады рядяіш»... У «Слове» прарокамі і чараўнікамі названы толькі Баян і Усяслаў Полацкі. Кіеўскі і Ноўгарад-Северскі князі такое не заслужылі.

Яшчэ адзін аргумент – моўныя асаблівасці «Слова». Канстанцін Калайдовіч, які бачыў яго арыгінал, адназначна сцвярджаў: «Пісаны ліст беларускім почыркам». Вядомы знаўца гісторыі і летапісаў мітрапаліт Яўфімій Балхавіцінаў, які не раз кансультаваў Пятра Румянцава і быў у перапісцы са складальнікам «Беларускага архіва старажатных грамат» Іванам Грыгаровічам, адзначаў (цытую паводле Міколы Улашчыка), што мова «Слова» «хаця і руская, але больш задняпроўская». Прафесар Мікалай Грамацін пісаў: «На такой мове, якую мы знаходзім у «Слове», ніколі не гаварылі ў



Расіі». Не зусім зразумелыя выразы ў помніку адносілі да... паланізмаў. Але менавіта ў нашай мове захаваліся такія словы і цэлыя спалучэнні, як *сцягі, смага, гадзіна, араты (па-руску пахарь), туга, каня, шызы арол, чырвоныя шчыты* і г.д. А ў «Плачы Яраслаўны» ёсць паралелі з народнымі песнямі Усходняга Палесся (зварот да ветру).

К. Калайдовіч і іншыя даследчыкі шкадавалі, што помнік быў выдадзены без уліку палеаграфічных даных, расшыфроўкі «цёмных» і «сапсаваных» пры перапісцы ў XVI стагоддзі месцаў. А гэта маглі быць не «паланізмы», а беларусізмы, якія на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў, ды і пазней, ніхто не імкнуўся (і не мог яшчэ) акрэсліць.

Мае апаненты могуць сказаць: як жа так, у «Слове» многа дахрысціянскіх, язычніцкіх элементаў. Не мог такога пісаць Свяціцель... Але тут лёгка запярэчыць: палешукі, у тым ліку і Кірыла Тураўскі, вызначаліся кансерватызмам. Паводле П. Лысенкі, у Тураве да хрысціянізацыі было самае вялікае капішча – поўны пантэон язычніцкіх багоў (цяпер яго рэшткі знаходзяцца якраз перад помнікам Кірылу Тураўскаму). Нават сёння хрысціянскую Радаўніцу адзначаюць тут не на дзевяты дзень ад Уваскрашэння Хрыстова, а на трэці, як павялося з даўніх часоў. У. Конан у энцыклапедыі «Беларусь» слушна заўважыў, што Кірыла Тураўскі меў «стрыманыя, памяркоўныя адносіны да веры сваіх продкаў», стваральнай моцы прыроды. Калі яго ў 1182 годзе змянілі на епіскапскай кафедры, гэтая неваяўнічасць да веры дзядоў («унукаў Велеса»), відаць, узрасла. Бо ў копіі з рукапісу «Слова», зробленай для Кацярыны II, больш захавалася міфалагічных выразаў: «Боян бо вещий аще тому хотяше песнь творити, то растекашется мыслію по дрэву, шэрым волком по земли, шизым арлом под облакы...»

У «Слове» прыгаданы язычніцкія багі: Стрыбог, Хорс, Дажбог, Дзіва і іншыя.

Прывяду яшчэ ці не самы важкі аргумент на карысць таго, што Кірыла Тураўскі з'яўляецца аўтарам не толькі дакладна атрыбутаваных павучанняў-»слоў», але і пакуль што дыскусійна звязанага з яго імем «Слова аб паходзе Ігаравым». У абодвух выпадках выразна праяўляюцца асуджэнне раздробленасці рускіх зямель (княстваў), заклікі да яднання іх ваенных і духоўных сіл. Успомнім хаця б «Слова аб кульгавым і сляпым», дзе асуджаецца напад смаленскага князя Расціслава Мсціслававіча на радзімічаў. Заклікі да яднання тады былі вельмі злабадзённыя, бо, як піша Мікола Ермаловіч, Тураўская зямля тады ўжо драбілася на Драгічынскі, Рагачоўскі і Чартарыйскі ўдзелы.

Паказальна, што ў «Слове» згадваюцца 22 гарады, больш 30 рэк і азёр. Але Турава і Прыпяці сярод іх няма. Чаму? Адказ вельмі просты. Той, хто пісаў, лічыў: я знаходжуся тут, а гэта і так усім вядома...

«Слова» як форма звароту да чытача было характэрным для творчасці Свяціцеля Кірылы. Успомнім, што раней у Нестара-летапісца формай кантакту з чытачом было «Жыціе». А форма якраз і ёсць выяўленне мастацкай асаблівасці кожнага творцы – так лічыў наш Максім Багдановіч.

Аўтар «Слова» быў не толькі геніяльным мысліцелем і мастаком свайго часу, але і аўтарытэтам з высокім грамадзянскім пачуццём адказнасці. Таму нават князям ён меў маральнае права чытаць натацыі.

Урэшце, некалькі слоў пра аўтэнтычнасць «Слова». Колькі было гаворкі, што яго падрабілі з патрыятычных пачуццяў у канцы XVIII стагоддзя ў Расіі, як, скажам, «Краледворскі рукапіс» у Чэхіі. Але тут, як мне здаецца, канчатковую яснасць унёс вялікі Пушкін. «Некаторыя пісьменнікі, абвяргаў ён скептыкаў, узялі пад сумненне сапраўднасць старажытнага помніка нашай паэзіі і ўзбудзілі гарачыя пярэчанні. Шчаслівая падробка можа ўвесці ў зман людзей недасведчаных, але не можа схавацца ад позіркаў сапраўднага знаўцы (...). Аднак ні Карамзін, ні Ермалаеў, ні А.Х. Вастокаў, ні Хадакоўскі ніколі не ўсумніліся ў аўтэнтычнасці «Слова аб паходзе Ігаравым». Сапраўднасць жа самога твора даказваецца духам старажытнасці, пад які нельга падрабіцца. Хто з нашых пісь-меннікаў мог мець у XVIII ста- годдзі на гэта дастаткова таленту?» Менавіта выказванне Пушкіна падштурхнула мяне, каб узяць эпіграфам да артыкула радкі Гётэ пра стваральнасць сапраўднага.

А як жа сталася, што такі культурны асяродак, у якім з'явілася першае на нашых землях «Тураўскае Евангелле», дзе жыў і тварыў Кірыла Тураўскі, раптам знік, прапаў, нібы міфічны град Кіцеж ці казачны востраў Буян у Пушкіна? На гэтае пытанне дакладна адказвае прафесар П. Лысенка, які больш за 40 гадоў раскопваў і вывучаў Тураўскае гарадзішча. На яго думку, у XIII стагоддзі адбыўся вялікі землятрус з эпіцэнтрам у Карпатах. Можа, да Турава дайшоў сілай толькі 4 балы. Але гэтага было дастаткова, каб каменны храм і вежа, падобная на Камянецкую, разбурыліся, бо, як сказана вышэй, яны былі пабудаваны на наносным рачным пяску.

Апсідай і паўднёвай сцяной храм накрыў пантэон тураўскіх князёў у саркафагах, разам з мошчамі. Два з іх выкапаны і знаходзяцца сёння ў Пінскім і Тураўскім музеях. Аналагічныя каменныя саркафагі я бачыў у Полацку. На доўгія стагоддзі, нібы пасля духоўнага землятрусу (а колькі іх у нас было!), прыцьмілася ў нашчадкаў і памяць пра Кірылу Тураўскага. Але яна жыла – у яго малітвах і пропаведзях. Яны пашыраліся ў рукапісных копіях, друкаваных кнігах. А сёння – і ў перакладах: многія айчынныя і замежныя анталогіі і зборнікі беларускай паэзіі пачынаюцца з яго павучанняў-«слоў». Да іх можа далучыцца і «Слова аб паходзе Ігаравым», калі ў гаворку, распачатую ў беларускім друку гэтым артыкулам, уключацца літаратуразнаўцы, гісторыкі, тэолагі, калі яны пагодзяцца з маімі меркаваннямі-здагадкамі.

***Думаецца мне, чаму ў савецкія, атэістычныя часы адкідвалася думка пра саму магчымасць аўтарства Кірылы Тураўскага? Ды таму, што ён быў епіскапам, Свяціцелем, значыць – цемрашалам. А тут – помнік свецкі, гонар старажытнай рускай (і яшчэ ўкраінскай) літаратуры... Не, ні ў якім выпадку не ён! І шукалі ў Чарнігаве, Ноўгарадзе-Северскім, Кіеве, нават у Галіцыі. Але не знаходзілі. Бо не было тады іншай такой адукаванай і таленавітай асобы, як Кірыла Тураўскі.***

***Эдуард АГУНОВІЧ,***
***мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі***
***(Скарочана, паводле «Голаса Радзімы»)***

**Ад рэдакцыі.** *Мы прадоўжым тэму, паднятую сёння, у наступным нумары. Меркаванне маскоўскага пісьменніка аб аўтарстве «Слова аб паходзе Ігаравым» чытайце ў «КГ».*





# Верасень

23 – **Вольскі (сапр. Вольскі-Зэйдэль) Артур Віталевіч** (1924, Дзяржынск – 2002), паэт – 80 гадоў з дня нараджэння.

27 – **Рапановіч Яўген Нічыпаравіч** (1929, Мядзел. р-н – 1987), мовазнавец, фальклarыст – 75 гадоў з дня нараджэння.

29 – **Статут Вялікага княства Літоўскага** 1529 г., першы Статут ВКЛ, звод законаў феадальнага права (1529–1566) – 475 гадоў з часу ўвядзення ў дзеянне.

29 – **Ходзька Ігнат** (1794, Вілен. р-н – 1861), пісьменнік, мемуарыст, грамадскі дзеяч – 210 гадоў з дня нараджэння.

30 – **Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч** (1914, Пінск – 1996), дзеяч культуры, вучоны-хімік, сын Я.Коласа, збіральнік і папулярызатар спадчыны песняра, арганізатар літаратурна-мемарыяльнага музея Я.Коласа, заслужаны дзеяч культуры Беларусі – 90 гадоў з дня нараджэння.




*Фота Міхася ХАМІЦА*

## Цікава ведаць

У самым высокім хмарачосе ў свеце (ён размешчаны ў сталіцы Тайваня Тайбэі) штодзённа працуюць 12 тысяч клеркаў. Калі гэты будынак у 101 паверх аддаць пад жыллё, з яго вялікімі холамі і безліччу калідораў, то ў ім маглі б з камфортам размясціцца 50 тысяч чалавек. Ну чым не сярэдні па велічыні горад!

## Калекцыянерам, і не толькі

### Гербы гарадоў – працяг

Гэтым разам на марках з'явіліся гербы Слоніма і Заслаўя. Мініяцюры № 529 і 530 намаляваў Алег Гайко. Наклад – па 120 тысячаў асобнікаў, памеры – 28 x 30 мм. У дзень выхаду на паштовых аддзяленнях гарадоў праводзіліся спецгашэнні на канвертах «Першы дзень».

### Птушка года

Пры садзеянні арганізацыі «Ахова птушак Беларусі» падрыхтавана марка № 559, прысвечаная гарадской ластаўцы, птушцы гэтага года.

Мініяцюра выйшла накладам 140 тысяч, у лістах з 7 марак памерам 26 x 37 мм і 1 купонам. Марку намаляваў Аляксандр Міцянін, купон – Рыгор Долбік. На Мінскім паштамце ў дзень выхаду ў абарот праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень».

(Дарэчы, на гэтай мініяцюры адлюстраваны выгляд на Верхні горад, які адкрываецца з вокнаў рэдакцыі нашай газеты.)

### Чыгуначная серыя

У серыі «Паравозы і чыгуначныя станцыі Беларусі» з'явіліся маркі, прысвечаныя станцыям у Мастах і Віцебску. Вакзал у Мастах пачатку XX ст. і паравоз тыпу 1-3-0 серыі Д адлюстраваныя на марцы № 565, вакзал XIX ст. у Віцебску і паравоз тыпу 2-3-0 серыі А – № 566. Памер – 40 x 28 мм, наклад – па 120 тысячаў асобнікаў. Мастак – Святлана Ляхар.

Да выпуску падрыхтавана па-мастацку аздобленая кніжка, у якой змешчаны аркуш з 12 марак. Наклад яе 2 500 асобнікаў.




### Шайбу на марку!

У нашай краіне хакей – адзін з самых ушанаваных відаў спорту. І не дзіва, што адна з мініяцюр нашай пошты прысвечаная якраз яму. А ў прыватнасці – чэмпіянату свету па хакеі з шайбай сярод юніёраў, які сёлета прайшоў у нашай сталіцы.




Марку № 560, таксама канверт «Першы дзень» і спецштэмпель, намаляваў Роберт Ваўчок; памер маркі 26 x 37 мм, наклад 90 тысячаў асобнікаў. Надрукаваная ў лісце з 18 марак і 2 купонамі.

### «Браты і сёстры» меданосныя

У гарачую пару выйшлі дзве маркі і блок, прысвечаныя братам нашым меншым і сёстрам, якія шчыруюць над кветкамі.

Блок № 40 з маркай № 569 прысвечаны пчале меданоснай, марка № 568 – чмялю дуброўнаму. Далучылася да іх стройных шыхтоў аса французская на марцы № 567. Намаляваў мініяцюры Аляксандр Міцянін. Маркі памерам 37 x 26 мм выйшлі накладам па 120 тысячаў асобнікаў. Памер блока – 75 x 101 мм, марка ў ім – 40 x 30 мм, наклад 25 тысячаў асобнікаў.

У дзень выхаду ў абарот на паштамце ў Мінску праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень».

За падрыхтоўку матэрыялаў рубрыкі дзякуем супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РДА «Белпошта»







## Сусветны дзядзінец

**1899.** Амерыканец А. Маршал з горада Броктан (штат Мінесота) патэнтуе халадзільнік.

**1920.** У Манчэсцеры на канферэнцыі ўрачоў-дантыстаў цукар называецца галоўнай прычынай хваробы зубоў. Каб пазбегнуць пагубных наступстваў, рэкамендуецца пасля салодкасцяў піць сухое шампанскае.

**1941.** Сталін прызначаецца на пасаду Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

**1944.** У Берліне васьмярых нямецкіх афіцэраў, абвінавачаных у падрыхтоўцы замаху на Гітлера, у тым ліку фельдмаршала фон Віцлебена, вешаюць на струнах ад піяніна.

**1963.** Савецка-амерыканскі дагавор аб устаноўцы «чырвонага тэлефона» (забеспячэнні прамой тэлефоннай сувязі паміж Белым домам і Крамлём).

**1981.** У час традыцыйнай аудыенцыі на плошчы св. Пятра ў Рыме на вачах у дваццаці тысяч веруючых 23-гадовы турак Мехмед Алі Агджа некалькі разоў страляе ў Іаана Паўла II з пісталета. Папа паправіцца ад раненняў, але з таго часу ва ўсіх сваіх паездках будзе карыстацца браніраваным «папамабілем» асобай канструкцыі.

**IX ст.** Упамінанне існавання ў Полацку, Ваўкавыску, Пінску і іншых мясцінах чаканкі – тэхнікі мастацкай апрацоўкі паверхні металу.

**1005 г.** Заснаванне праваслаўнай епархіі ў Тураве.

**1997.** У Аўстраліі Ота Акрон трымае на канаце на працягу 15 секунд два самалёты «Сесна», што ўзлятаюць у розных накірунках (сусветны рэкорд).

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

БАВА КАРАЛЕВІЧ – герой старажытнай аповесці і розных народных казак з пэўным сюжэтам. Яму прыходзіцца шмат цярпець ад уладнага айчыма, збегчы на чужыну, а там, пасталеўшы і набраўшыся сіл, выпадае дабіцца шматлікіх поспехаў: аднаму перамагчы варожае войска, узяць замуж царскую дачку і па вяртанні дамоў знішчыць айчыма і самому стаць уладаром.

Твор пра Баву з'явіўся ў XII ст. у Францыі як рыцарскі раман, праз Італію і Сербію трапіў на нашы землі, дзе ў XVI ст. быў перакладзены на беларускую мову. Аповесць шырока перадавалася і вусна і ўрэшце набыла фальклорны, казачны характар, дзе замежны вой Бава паказваецца як асілак, а таксама як і здольны гусляр. Вядомы і варыянты казак пра яго і ў рускім, украінскім фальклоры. Адзін з беларускіх сюжэтаў быў запісаны ў пасляваенны час у Чачэрскім раёне ад казачніка П. Гулевіча і ў Бярэзінскім ад П. Акулевіча.

БАГАГЛАСНІКІ – уніяцкія і праваслаўныя зборнікі песнапенняў рэлігійнага зместу, якія ўжываліся ў XVI–XIX стст. як у рукапісах, так і ў кнігах. Па іх спявалі ў час богаслужэння, хрэснага ходу і дома на святы. Гэта былі лацінскія гімны, польскія кантычкі, календы, гейналы, пастаралькі, беларускія і ўкраінскія духоўныя псальмы і канты. У іх у першай частцы былі песні да розных рэлігійных святаў, пасвячэнне Хрысту, некаторым тыдням царкоўнага календара, у другой – багародным святам, у трэцяй– апосталам і пакутнікам, у чацвёртай – пакаянным і замілавальным песнапенням. Змест, музыка шматнацыянальныя, побытавыя матывы – найчасцей у псалмах-калядках. Пры параўнанні, на думку вучоных, шматлікіх беларускіх, украінскіх і больш позніх рускіх багагласнікаў, узніклых з беларуска-ўкраінскіх узораў, «паказвае эвалюцыю мовы ў бок яе русіфікацыі, прычым многія словы перакладаюцца на рускую мову няўдала, што вядзе да скажэння сэнсу, парушэння рыфмы, часам да разбурэння акравершаў».

Ёсць звесткі, што існавала нямала ранніх беларускіх зборнікаў падобнага тыпу – скажам, захаваныя багагласнікі ў Богавыяўленскім манастыры, там адна з кніг – рыфмаваныя тэксты на старабеларускай мове. На ёй былі і запісаныя лацінкай жыровіцкія багагласнікі XVII ст. Надрукаваныя ў гэтым часе не зберагліся. У асноўным з-за праследавання праваслаўем, якое падавала іх за шкодную праяву уніяцтва. У XVIII ст. рукапісныя беларускія багагласнікі складаліся ў Супраслі (адзін з іх захоўваецца ў бібліятэцы ў Літве). Найбольш ранні захаваны друкаваны зборнік гэтай тэматыкі дайшоў да нас за 1790 г., дзе сярод многіх моў ёсць і ўкраінізмы ды беларусізмы.

БАГАТАЯ КУЦЦЯ (шчадрэц) – старадаўні звычай у славян святкаваць вечар перад новым годам. Адзначалі багата, спадзеючыся на далейшыя здароўе і дабрабыт усёй сям'і. Нашы продкі ласаваліся блінамі з верашчакай і смажанай кілбасою, скваркамі, куццёй, крупнікам з мясам, баршчом з буракоў. На багатую куццю сталыя людзі варажылі пра новы ўраджай, а дзяўчаты – пра свайго суджанага. У сувязі з гэтым звычаем быў абрад шчадравання, калі хадзілі ад хаты да хаты; самую прыгожую, хараша ўвабраную галасістую дзяўчыну мелі за шчодру. Яна спявала адмысловыя шчадроўскія песні, якія былі падобныя да калядных. Песнямі хацелі наблізіць вясну, папрасіць багатага ўраджаю, уславіць гаспадароў, пажадаць ім здароўя і плёну, па-рознаму выкарыстоўвалі-ся вобразы шматлікіх звяроў і птушак. Гаспадары шчыра аддзячвалі рознымі прысмакамі шчадроўнікаў.

БАГАЧ (багатнік, багатуха) – старажытнае народнае свята, якое сяляне шчодра і весела адзначалі, калі ўсё з поля было ўжо ў гумне і ў скрынях. За сімвал свята мелі рэшатца жыта з устаўленай ў яго васковай свечкай – багач. Жыта было з першага зажынкавага снапа. Абыходзілі ўсіх вяскоўцаў. Іх усюды сустракалі радасна, выносілі да стала жыта, пшаніцу і іншае збожжа, шчодра частавалі гасцей. Пасля абходу багач ставілі ў хаце аднаго з паважаных гаспадароў і пакідалі да новага жніва. Па павер'і багач павінен быў не толькі захавацца, але і забяспечыць дому здароўе ды багацце. У сувязі са святам шырока бытавалі народныя прымаўкі: «Прыйшоў багач – кідай рагач, бяры сяveньку, сей памаленьку».

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 09. 09. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1431.
Тыраж 1100.